

# СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА

#10 [2001]

# ДЗЕНЬ СТУДЭНТА

¡ЗАБАМБІ ЛЮДЗЯМ СЬВЯТА!

DEPECHE MODE ... ТАНЯ СУЛІМАВА ... PEARL HARBOR ... МАБІЛЫ



СТУДЭНЦКАЯ DУМКА

# Нечакана знаёмыя






**Студэнцкая думка № 10 (70) 2001 г.**

Заснавальнік: грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"
Выдавец: рэдакцыя "Студэнцкай думкі"

**Рэдактар**
Ірына Віданава
**Намесьнік рэдактара**
Мікола Шакель
**Стыль і каректура**
Алена Беляеўская
**Дызайн, вёрстка й афармленьне**
Уладзімер Пакацілаў
**Фота на вокладцы**
Павал Пятрышчаў



**Адрэса рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр :** 206-75-75, абанэнт 1823
**Адрэса для допісаў:** 220030, г. Менск 30, п/с 90
**Адрэса ў Інтэрнэце:**
www.studumka.com
**E-mail:** studumka@tut.by



Часопіс выходзіць з 1924 г.
Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.





Надрукавана ў ДУП "Прамдрук", 220000, г. Менск, Чарняхоўскага, 3.
Ліцэнзія ЛП № 126 ад 30.12.1997 г.
Фармат 60x84 1/8
Папера афсэтная 65 г/м2
Падпісана ў друк 01.11.01
Замова № 1200.
Наклад 3300 асобнікаў
Кошт свабодны.


Прывітаньне, наш стомлены лекцыямі, лабамі й ПЗ сябар! Знаходзь у сваіх мазгох пару мэгабайтаў вольнага месца і прымай чарговую ўдарную дозу інфармацыі ад "CD"!

Рыхтуючы гэты нумар, мы правялі міні-апытаньне на тэму "Калі адзначаецца ***Міжнародны дзень студэнтаў***?". Вынікі, шчыра кажучы, нас зьдзівілі: сёй-той з г.зв. "студэнтаў" наагул ня можа згадаць дакладнае даты... Але гэта несапраўдныя студыёзусы. Мы шчыра верым, што ты не такі. Ты ж памятаеш, што 17 лістапада - тваё прафэсійнае сьвята! І каб у гэты дзень ня браць аблогаю фірмовыя крамы заводу "Крышталь", трэба рыхтавацца да сьвята загадзя. Пачні ўжо сёньня! У гэтым нумары мы прапануем табе падрабязны плян дзеяньняў на бліжэйшы час, выканаўшы які, ты можаш быць цалкам упэўнены, што сёлетняе сьвяткаваньне ***Дня S*** надоўга запомніцца табе й тваім сябрам.

А цяпер зірні на сябе ў люстэрка і шчыра адкажы на пытаньне: ці лічыш ты сябе модным? Што? Не з тваёй стыпэндыяй? Памыляесься, тут усё залежыць не ад грошай, а ад жаданьня. Сёньня ў "Палявых дасьледаваньнях" мы зарганізуем для цябе віртуальную ***экскурсію па модных крамах Менску***, і ты ўбачыш, што нават у нас і нават з нашымі грашыма можна разжыцца даволі-ткі прыстойным гардэробчыкам. Потым, пры жаданьні, ты зможаш самастойна прайсьці тым самым шляхам у *real time*'е.

Апроч таго, тут ты знойдзеш справаздачу пра канцэрт ***"Depeche Mode"*** у Варшаве, інтэрвію з ***Тацянай Сулімавай***, вялізную падборку інфармацыі пра магчымасьці ***працы за мяжой*** (сьпяшайся, дакумэнты афармляюцца ўжо цяпер!), парады па выжываньні ***ў войску***, па "арганізацыі" для сябе, родненькага, ***бескаштоўнага Інтэрнэту*** і яшчэ цэлы стос інфармацыі, якую ты ня знойдзеш больш ***нідзе***.

Так што кідай усе справы - чытай "CD"! А мы тым часам пашукаем для цябе яшчэ што-небудзь **смачненькае**.



# ЗЬМЕСТ



























# І табе гэта трэба?

Стас Кульба

**Дужа модныя сталі цяпер размовы пра эміграцыю. Маўляў, тут жыць цяжка, таму трэба шукаць, дзе лягчэй. А ці трэба? Вось табе, калі ласка, 10 нагодаў не зьяжджаць зь Беларусі.**

***Нагода #1*. Задужа проста!**
Узяць і зьехаць - занадта просты спосаб вырашэньня праблемаў . Ён табе патрэбны? А слабо застацца й пазмагацца? Сапраўдны баксэр пакідае рынг альбо пераможцам, альбо ў гарызантальным становішчы. Шмат выгодаў твой не-ад'езд табе не прынясе, але будзе пра што потым баяць унукам. А за мяжою, сваім унукам-"буржуінчыкам" што ты распавядзеш? Яны нават тваёй беларускай мовы не зразумеюць…

***Нагода #2.* Не дачакаецеся!**
Для некаторых асобаў, што сьвяткуюць дзень народзінаў 9 верасьня, твой ад'езд будзе найлепшым падарункам - няма чалавека, няма й праблемаў. Што табе падабаецца болей: быць сырам у масьле альбо канцылярскай кнопкай на крэсьле тваёго нядобразычліўца? Выбірай!

***Нагода #3.* Пантофлікі зь медзьведзянятамі**
Сядзь на зэдлічак пасярод свайго пакою і азірніся. Стаптаныя пантофлі, плюшавыя мядзьведзікі, фенечкі, яшчэ мамчыны лялькі, гітара з усімі шасьцю парванымі струнамі. Усё гэта дарагія табе рэчы, яны складаюць частку цябе. Адно з двух: альбо іх давядзецца пакінуць тут, альбо арэндавацьмеш грузавы кантэйнэр. Каб пазьбегнуць шчымлівых сцэнаў ды не адрываць ад сябе кавалкі сябе ж самога, здай, покуль ня позна, квіток, а на атрыманыя грошы купі яшчэ адны пантофлікі зь медзьведзянятамі.

***Нагода #4.* Пабераж нэрвы!**
Ты калі-небудзь заходзіў у амбасаду? І не заходзь! Тыя людзі, што тоўпяцца на панадворку, - гэта ахвотныя выехаць. Калі нават заходнія ўстановы гэтак "апэратыўна" вырашаюць такія пытаньні, то што цябе чакае ў прыёмных нашых родненькіх чыноўнікаў? А праз іхнія рукі табе давядзецца прайсьці ў першую чаргу.

А цяпер уяві: па нейкай прычыне - не знайшоў годнага занятку, рэчаіснасьць "там" апынулася не такой звабнай, як яе малююць па тэлевізіі і г. д. - ты вырашыў вярнуцца дадому. Тады цябе чакаюць тыя ж самыя марудныя й нэрвовыя працэдуры, толькі ў адваротным парадку. Да таго ж, калі ты добраахвотна вернешся з-за мяжы - рызыкуеш патрапіць у псыханэўралягічную лякарню: тутэйшыя абывателі проста палічаць цябе вар'ятам. Карацей, калі ня хочаш зарабіць сабе датэрміновы гемарой, ідзі лепей займіся якой-небудзь больш прыемнаю справай.

***Нагода #5.* Патэлефануй бацькам!**
Ну, зьехаў ты за мяжу. Бацькі ж і ўсе сваякі засталіся тут. Табе давядзецца ім тэлефанаваць. Згадай, колькі разоў за вечар тыператэлефаноўваеш бацькам, калі папросту затрымліваесься на дыскатэцы. А тут ты едзеш не на танцулькі, дый адлегласьць ня тая. Карацей, каб пабераць іхныя нэрвовыя клеткі, табе давядзецца тэлефанаваць ці не штодня. Магу сабе ўявіць, як устануць астатнія валасы на тваёй галаве пры атрыманьні рахунку за такія перамовы. Усё яшчэ хочаш ехаць?




***Нагода #6.* Amour адмяняецца?**
Калі ж ты зьяжджаеш за мяжу, пакідаючы тут каханую (-га) дзяўчыну (хлапца), то ты проста сьвінтус грандыёзус вульгарыс. І свае адмазкі пра "ўладкуюся - дашлю выклік" можаш… ну, ты сам здагадаесься, што зь імі рабіць.

Твая пазыцыя - пазыцыя слабака: маўляў, я матаю, а вы ўжо як хочаце. Самаму блізкаму чалавеку ты патрэбны тут і цяпер. Калі ж у цябе пакуль такога няма, зірні на тых замежнікаў: яны такія маленькія, худзенькія, у акулярчыках… Табе патрэбная такая пара?

***Нагода #7.* Сябры**
Вось, калі ласка, яшчэ адна нагода - сябры! Дзе яшчэ ты знойдзеш такую канцэнтрацыю добрых хлопцаў / дзяўчат на квадратны кілямэтар? Але калі ты думаеш, што яны будуць безь цябе тут плакаць, ты моцна памыляесься. Яны будуць піць піва і, у лепшым выпадку, слаць табе мэйлы. А ты… Ты будзеш глытаць сьлінкі і працаваць як конь. Сэнс?

***Нагода #8.* Адукацыя**
За мяжу зьяжджаюць найчасьцей людзі адукаваныя. Прычым рэальны шанец уладкавацца па спэцыяльнасьці маюць хіба што праграмоўцы. Атрымліваецца, ты пяць гадоў вучысься тут на гісторыка, географа ці культуроляга толькі для таго, каб працаваць тамака гарсонам ці пакаёўкаю. Не шкада змарнаванага часу?

***Нагода #9.* Nostalgie**
Калі ты вырашыў зьехаць, значыцца, ты - матэрыяліст (толькі не кажы, што едзеш паглядзець на "Сыкстынскую мадонну"!). Як жа ж ты будзеш жыць без такіх неабходных твайму арганізму рэчываў, як скарынка чорнага хлеба, чарка і кавалак сала мэтар на мэтар? Сум па іх будзе апаноўваць не цябе, а твой страўнік, і гэта значна страшней за духоўныя патрэбы! Чорнага хлеба там у іх няма, гарэлка дарагая і, халера на яе, брыдкая. А пра сала я наагул маўчу.

***Нагода #10.* Улюбёны часопіс**
Нарэшце, ці падумаў ты, як жыць на чужыне без улюбёнага часопісу? Хоць "Студэнцкая Думка" й распаўсюджваецца па ўсім сьвеце, мяркую, значна прыемней купіць яе на Беларусі за пару соцень "драўляных", чымся ў якім-небудзь вашынгтонскім "Саюздруку" за некалькі штук баксаў.

**Заставайся тут.**
**Заставайся з намі!**



# Менск слэнгавы

Алеська

(Працяг)

***Лужок.*** Гэта - не пра Лужкова, а пра раён Зялёны Луг.

***Лазьня.*** Сярод студэнтаў Лінгвістычнага ўнівэрсытэту "хадзіць у лазьню" значыла зусім не хадзіць мыцца, а піць гарэлку ў бары ля лазьні на Мар'еўскай вуліцы (знаходзіцца недалёка ад вышэйзгаданае ВНУ). Кажуць, піва там было таннае, а гарэлку дазвалялася прыносіць з сабой.

***Сасок.*** Піўбар "Аліварыя" на вуліцы Кісялёва. Сярод заядлых тусоўнікаў тут заўважаныя студэнты Лінгвістычнага, кансэрваторыі. Плюс розныя там яшчэ…

***Чэйндж.*** Паходзіць, як вы, напэўна, здагадаліся, ад ангельскага change. Так завецца пункт прыёму шклатары на заводзе "Аліварыя". Прасьцей кажучы, тут можна пустыя пляшкі зьмяняць на поўныя.

***Дзібілдзінг.*** У Лінгвістычным унівэрсытэце корпус Д (былы інтэрнат), што знаходзіцца за будынкам ВНУ, насупроць ТБМ. Вось такі D-build-ing на беларускі манэр. Яшчэ адзін варыянт паходжаньня - deep knowledge building (пабудова глыбокіх ведаў), прычым deep knowledge скарацілася да "дзі" ... Наколькі глыбокія веды ў насельнікаў дадзенага будынка, вырашайце самі, але з гумарам у іх усё ў парадку.

***Фэля.*** Фэлікс, Пад Гадзіньнікам. Назвы піўбару, які зараз завецца "Узвышша". Побач стаіць жалезная постаць Фэлікса Дзяржынскага. Наверсе дома, дзе месьціцца бар, можна бачыць гадзіньнік. Існуе павер'е: хто пачынае піць піва ў гэтым бары, мусіць ускласьці кветкі да злавеснага пастамэнту Фэлі.

***Чэлюсьці.*** Так ахрышчаны парк Чалюскінцаў. Нагадаю, што чалюскінцы - удзельнікі савецкай палярнай экспэдыцыі 30-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Параход "Чалюскін" быў скаваны крыгамі, але пацярпелых выратавалі. Гісторыя, безумоўна, герайчная. Але якое дачыненьне яна мае да менскага парку - загадка.

***Сьцякляшка.*** У раёне кінатэатру "Перамога" ёсьць бар "Ілюзіён". Дык вось, побач было летняе памяшканьне пад назваю Сьцякляшка. Тут любіла зьбірацца апазыцыйна настроеная моладзь, інтэлігенцыя - дысыдэнты, так бы мовіць. Гэта, відаць, было адной з прычынаў таго, што памяшканьне зьнесьлі. Сьцякляшкамі таксама завуцца пітныя ўстановы ля стадыёну "Дынама". Там сядзяць зазвычай гандляры з кірмашу, а ўвечары трапляюцца і студэнты БДУ, што жывуць побач у інтэрнатах.

***Сухара́ва.*** Зьмена націску ператварае назоў у нешта японскае. Празрысты намёк на тое, што раён знаходзіцца чорт ведама дзе. Хаця й некаторыя аб'екты ў цэнтры таксама "япанізуюцца": як вам падабаецца назва вуліцы Сурганава з націскам на перадапошнім складзе?

***Капейка.*** Інтэрнат гістфаку БДУ на Сьвярдлова, 34.

***Матуга.*** Неафіцыйны назоў Менскае авіятэхнічнае вучэльні (абрэвіятура па-расейску - МАТУ), што ў Чыжоўцы.

***Пцічнік.*** Раён Курасоўшчына. Частка назвы - "кура" (птушка такая).

***Асьліныя Вушы.*** На рагу вуліцаў Сурганава і Акадэмічнай стаяць два высокія аднолькавыя будынкі. Адзін зь іх належыць Акадэміі Навук, другі - факультэту міжнародных стасункаў БДУ. Цікава, хто гэта асацыюецца з жывёлінамі: навукоўцы ці элітарныя студэнты?

***Пэнтагон.*** Так называецца штаб Беларускай вайсковай акругі, што месьціцца каля крамы "Пад шпілем" (гл. папярэднія нумары).

Удакладненьне да назвы ***Брод*** (гл. "СД", 2001, № 8). У рэдакцыю паступілі зьвесткі, што Бродам называюць толькі частку праспэкту ад паштамту да Кастрычніцкае плошчы (дзе Маўзалей, ён жа Саркафаг, стаіць). Прычым так завецца толькі адрозны ад Макдону бок. Мы мяркуем, што ў розных колах Бродам называюць і цэлы праспэкт, і ягоную частку.

**Магу спрачацца на што заўгодна, 17 лістапада выкладчыкі ўбачаць пустыя аўдыторыі. А найбольш дасьведчаныя і самі ня прыйдуць на заняткі. Бо ў гэты блаславёны дзень мы будзем сьвяткаваць Міжнародны дзень студэнтаў. І ў цябе ўжо зараз баліць галава: дзе й як адзначыць гэтае гадавое сьвята? Што ж, давай разам складаць плян імпрэзы.**

# ДЗЕНЬ S

Mr.Doomkin

## Месца дысьлякацыі

### На хаце

Арганізацыя імпрэзы - прычым такой адказнай, як Дзень студэнта, - у сябе ўдома ёсьць актам найвялікшае адвагі. Ты й сам ведаеш, што нават добра выхаваная дзяўчына з узорнае сям'і і з дыплёмам парыскай Сарбоны можа мамэнтам ператварыцца ў фурыю (вакханку, валькірыю - магчымыя варыянты), калі будзе занадта шчыраваць з напоямі. Вядома, можна зарэзэрваваць колькі столікаў у рэстарацыі ці ў кавярні, але грошы на гэта трэ было адкладаць ужо з пачатку навучальнага году. А дом усё-ткі ёсьць домам.

І лепей, калі гэта будзе ня твой дом. Пагамані зь сябрамі, знайдзіце самага вушастага ў сваёй групе, навешайце яму локшыны на тыя самыя вушы і паспрабуйце "падняць" яго на location. Калі ён пагодзіцца - справа зробленая. Застанецца толькі сплавіць ягоных продкаў на лецішча (віншую, сёлета 17 лістапада прыпадае на суботу!) ці набыць ім квіткі ў кіно, на якую-небудзь "Гадзілу". Апошні варыянт мае свае выгоды - расчуленыя бацькі вам яшчэ й лімончыкаў купяць.

Калі ж нікога раскруціць на хату не атрымалася, не бядуй: ёсьць яшчэ колькі варыянтаў.

*"Колькі можна ўжо заходзіць?"*

*Насельнікі інтэрнату БДУ №_ (чалавек, які нам гэта распавядаў, сьлёзна прасіў не называць нумар) колькі год таму на Дзень студэнта забаўляліся наступным чынам: зьвязалі прасьціны ды розныя апранахі і з дапамогай гэтай імправізаванай вяроўкі "дэсантавалі" з другога паверху аднаго сьмелага госьця, які завітаў у інтэрнат на сьвята і, натуральна, пакінуў на вахце свой дакумэнт. Маладзён, апынуўшыся на зямлі, рушыў назад, у інтэрнат. Кабета на вахце, вядома ж, грозна запыталася: "А дзе Вашыя дакумэнты?" "А вунь ляжаць, я ж толькі што заходзіў!" "Але нешта я ня бачыла, як Вы выходзілі", - нерашуча прамармытала бабця, прапускаючы студэнта. У ейнай галаве зьявіліся невясёлыя думкі пра старэчы склероз... Калі ж хлапец зайшоў яшчэ раз, а пасьля, зь інтэрвалам у пяць хвілінаў, яшчэ (і пры гэтым меў нахабства ніводнага разу не выходзіць!), вахтэрка ня вытрымала і схапілася за валідол: "Колькі можна ўжо заходзіць? Хоць бы раз выйшаў!!!"*

*Не паўтараць - небясьпечна!*

### На кв атэры

Зьняць кватэру на содні зараз вельмі проста. Робіцца гэта так: купляеш газэту кшталту "Из рук в ноги" і сядаеш на тэлефон. Добрая аднапакаёўка ў цэнтры гораду пацягне ў агенцыі на $10-20. Калі пакруцісься - знойдзеш і за 5. Табе запрапануюць усе выгоды: ад відэамагнітафона да пэрсыдзкіх дываноў. Не разгубіся. Падумай, навошта табе той відак і тыя дываны (хто іх будзе пасьля чысьціць?). Важна, каб у кватэры была лядоўня - цёплыя напоі піць непрыемна, - круцёлка для кампактаў, а таксама дастаткова месца, каб патанчыць. Усё! Праўда, потым цябе чакае сюрпрыз: за паслугі ў агенцыі зьдзяруць яшчэ тысячаў 15...

Тады ідзі на вакзал і шукай там бабусяў з шыльдачкамі: у іх усё значна таньней. Толькі не бяры з сабой усю кампанію - бабцяў распужаеш. І нават калі там ты нічога ня знойдзеш, ёсьць яшчэ адно выйсьце.

### У інтэрнаце

Інтэрнат - самае вясёлае й самае экстрэмальнае з магчымых месцаў адпачынку. Зьбірай кампанію і рухай сябе туды, да каго-небудзь з аднагрупнікаў. Калі "каманда" пераважна аднаполая (пекныя філялягіні ці мужныя мэхматаўцы), паспрабуй знайсьці "кліента", што мешкае ў інтэрнаце з насельніцтвам процілеглага полу (дзяўчаты, не нарвіцеся на казармы Вайсковае акадэміі!). У інтэрнатах, як правіла, на Дзень студэнта ладзяцца дармовыя дыскатэкі (ніякая апаратура і гіты 80-х - гэта дэталі). Важна не забывацца на тое, што 17 лістапада ў большасьці інтэрнатаў уваход для гасьцей магчымы толькі да 21.00. Да таго ж колькасьць наведнікаў на адзін сустрэчны пропуск будзе абмежаваная.

Будзе ўзмоцнены й унутраны рэжым. Так што калі пасярод весялухі ў пакой зазірне нейкі вусаты дзядзька - ведай, што гэта камэндант.



### Стол

Калі добра падумаць, на стол можна паставіць што заўгодна. Іншае пытаньне, дзе гэтае "што заўгодна" ўзяць. Можна паехаць на кірмаш і купіць мяска, гароднінкі, садавінкі, яшчэ якой трасцы. Можна замовіць ежу ў рэстарацыі з дастаўкай - толькі зрабі, калі ласка, так, каб плаціў за гэта ня ты. Калі ты хлапец, даручы справу сэрвіроўкі стала дзяўчатам. Калі ты дзяўчына, карыстайся прынцыпам: "З хлопцаў грошы, а мы ўжо нешта прыгатуем". Спадзяюся, хоць які-небудзь досьвед у гэтай справе ты маеш...

### Напоі

Імі варта запасацца загадзя. Складзі "разнарадку" і прылічы, хто што будзе і хто колькі пацягне. Стандартная расклала: 500 г на хлапца і 350 г на дзяўчыну. Старая народная забава *N+1 (дзе N ня болей за 3, бо тады 1 аўтаматычна ператвараецца ў 2, 3 і г. д.)** тут ня дзейнічае, бо пасьля такой дозы тваіх калегаў будзе цяжка нават ідэнтыфікаваць па полавых прыкметах. Безалькагольных напояў трэба па 1-1,5 літру на нос.

**Што пад што**

Не забывайся на правілы *bon ton*'у. На любых нармалёвых пасядзелках моцныя напоі п'юць не "ад балды". Такім чынам,

*да закусак падаюць гарэлку й настойкі (у нас жа часьцяком атрымліваецца наадварот);*
*да супоў - моцнае вінаграднае (ня блытаць з пладова-ягадным!) віно;*
*да рыбных страваў - белае сухое віно;*
*да мясных - чырвонае сухое;*
*да дзічыны - таксама чырвонае сухое (альбо шампанскае);*
*да салодкіх страваў і садавіны - шампанскае альбо дэсэртное віно;*
*да кавы - каньякі й лікёры.*

**Не пераблытай!**

### Музыка

Як мы й дамаўляліся, ты загадзя паклапаціўся пра наяўнасьць сякой-такой апаратуркі. Толькі не дадумайся ўрубаць *FM*-радыё (ды яшчэ якую-небудзь "Сталіцу" :-)). Музыка мусіць адпавядаць настрою. Паспрабуй уявіць густы сваіх калегаў. Калі будзеш адзначаць Дзень S са сваёй групай, можаш загадзя пусьціць на лекцыі аркушык паперы па шэрагах - хай кожны напіша, што ён слухае і што можа прынесьці (ня будзеш жа ты рызыкаваць сваімі ўласнымі кампактамі!). Для 5-гадзіннай імпрэзы патрэбна недзе 25-30 кампактаў. Каб не круціць адно і тое ж. Можна пакласьці асобна кампакты пад "сядзець" і пад "танчыць". Прызнач каго-небудзь *DJ*-ем: будзе на каго потым накаціць бочку за "няправільную музыку".

### Каштарыс

Такім чынам, сабраліся 10-15 чалавек. Выжлукцілі ўсё, што гарэла, паелі ўсё падобнае да ежы, патанчылі й распаўзьліся. Калі засядалі ў інтэрнаце, то імпрэза абышлася *мінімум* у 50-75 тысячаў (па пяць з носу). Калі наведалі гасьцінны дом свайго сябра, то выдаткавалі менеј: бацькі забыліся зачыніць бар з напоямі; да таго ж яны, калі памятаеш, купілі вам лімончыкаў; да таго ж давай ня будзем пра тое, што яны ранкам знайшлі ў лядоўні. Калі здымалі кватэру, дадай да выходнае сумы $10-15 за аднапакаёўку, зьнятую ў бабці, і пару сотняў "зялёных" за відак (а ты думаў, ён сам учора ў вакно скочыў?). Дзякуй Богу, за такcоўку кожнае цела заплаціла само...




© Pavel Petrischev

## Генэральны прыкол

Каб было пасьля што згадаць, недзе па другой-трэцяй гадзіне сядзеньня (інтуіцыя падкажа табе спрыяльны момант) уключы падрыхтаваны загадзя дыктафон зь вялі-і-і-знай (хвілінаў на 90) касэцінай. Пасьля, праз які тыдзень, прынясі яе на заняткі - твае сябры будуць у экстазе!

**"Сьня-гур- ка!!!"**

*Неяк год зь пяць таму ўвосені, калі ўжо надышлі халады, у адным зь інтэрнатаў РТІ ніяк не хацелі ўключаць ацяпленьне. Студэнты трывалі ажно да 17 лістапада... А на сьвята, спрабуючы хоць неяк сагрэцца, расклалі вогнішча ў пакоі адпачынку, усчынілі вакол яго рытуальныя скокі й пачалі... клікаць Сьнягурку (усё-ткі было ўжо ня лета!). Працяг гэтай гісторыі невядомы, але распавядаюць, што ацяпленьне ўключылі ўжо на наступны дзень.*

***Не паўтараць- небясьпечна!***



## 18.XI.2001...

Калі ты ўчора закінуў на ўсе справы і як сьлед адзначыў сваё прафэсійнае сьвята - ня выключана, што ў гэты дзень табе будзе цяжкавата. Але не адчайвайся: ня ты першы, ня ты й апошні ў дружных шэрагах посталькагольных сындраматыкаў. І на дапамогу табе прыйдзе шматвекавы інтэрнацыянальны досьвед аматараў добра пасядзець.

### Ангельскі варыянт лекаваньня

Перад тым як распачаць актыўны ўжытак агнявое вады і ўсіх напояў-спадарожнікаў, варта выпіць шклянку звычайнага малака (глядзі не захапляйся, за большыя дозы аўтар адказнасьці не нясе). Добра адзначыўшы, перад сном выпі паўлітру халоднае вады, а на сьняданак ужывай мёд, павідла ды садавіну. Калі на гэтыя ласункі табе нават глядзець не захочацца - заплюшчы вочы!

### Польскі варыянт

Ты прачнуўся з хворай галавой і частковай амнэзіяй? Ні бяды! Выпі шклянку малака й зьеш на сьняданак штонебудзь тлустае (трэба сябе прымусіць!). Калі ж амнэзія поўная, а галава адмаўляецца пралазіць нават у расьцягнены за доўгія гады нашэньня швэдар - давядзецца прыгатаваць фірмовы польскі кактэйль ***"Прадзяры зенкі"***. *Бярэм два сырыя яйкі, дзьве маленькія лыжкі цукру, дзьве лыжкі ёгурту, кілішак алькаголю й крыху сьмятаны. Усё гэта старанна перамешваем і выпіваем.* Калі ўжо й гэта не дапаможа - можаш ісьці добраахвотна здавацца ў выцьвярэзьнік.

### Амэрыканскі варыянт

Увечары 17 лістапада, вярнуўшыся з банкету, адчыні дзьве бляшанкі піва, праглыні сьліну і пастаў іх у лядоўню. Раніцою, прачнуўшыся, ты будзеш імі лекавацца. А паколькі ўвесь "дух" зь піва за ноч выйдзе, то паху ніякага ня будзе (нават наступствы пасядзелак нэўтралізуюцца). Таму, ужыўшы гэны эліксыр, можаш сьмела йсьці да сваёй дзяўчыны са справаздачаю пра ўчорашнія геройствы.



### Французскі варыянт

Французскі спосаб лекаваньня даволі-ткі тэрмаядзерны (дзікія людзі гэтыя галы!). Бярэм зубок часнаку, расьціскаем і заядаем гэнае шчасьце пятрушкай. Што, блага? А ўчора добра было? Вядома, пасьля гэтага можаш забыцца на ўсялякія справаздачы. Хаця, магчыма, выратуе жуйка (любая, нават з цукрам - усе шкодныя бактэрыі, што не загінулі сьмерцю харобрых учора, былі пасьпяхова дабітыя сёньня).

## Машына часу

Натуральна, пасьля таго як нараніцу ты пабачыш сябе ў люстэрку, непазьбежна зьявіцца думка: "Гэх, зачэм жа я так учара?" А гэтае самае "ўчара" ўжо ня вернеш і нічога не паправіш. Добра, калі ты ўчора ня лез цалавацца да камэнданта інтэрнату і не хадзіў у пастарунак віншаваць міліцыянтаў са сьвятам. А калі так... Давай пагуляем у гульню а-ля Ўэльс: паспрабуем адматаць час назад і ўнікнуць наступстваў перапітку (дасталі ўжо гэтыя эўфэмізмы!).

Каб не давялося потым лезьці ў "CD" па заморскія рэцэпты (уранку лепей чытаць штосьці больш прыемнае - пра працу ў Амэрыцы ці пра "Дэпэшу"), прапануем падрыхтавацца да атакі на ўласны арганізм загадзя. Такім чынам, перад пасядзелкамі прыгатуй сабе крэм пад назваю ***"Ні ў адным воку"***. *Вазьмі 200-250 грамаў сыру, перамяшай з маслам ад кансэрваваных сардзінаў (самых бедных рыбак можаш ахвяраваць галодным сябрам), намаж на хлеб ды зьеш.*

Калі ж падрыхтавацца не атрымалася, табе будзе карысна ведаць, што існуе цэлы шэраг так званых напояў-аўстэраў, пакаштаваўшы якіх, ты вокамгненна працьверазееш. Вось табе рэцэпт напою ***"АЎСТЭРліц"***: *памаж унутраныя сьцені келіха алеем, пакладзі туды дзьве лыжкі таматнага соўсу, сыры жоўцік ад яйка, чорны і чырвоны перац, пасалі, дадай крыху гарэлкі й лімоннага соку. Выпі адным махам.* Цяпер табе ня страшны ніякі алькаголь, і крыху пазьней ты зможаш атрымаць асалоду ад сузіраньня прыгодаў сваіх калегаў, якія (прыгоды) для самых кволых скончацца мірным сном. Пыскай у салаціку.





**Ну вось, дарагі дружа, на гэтым нашае *preview* завершанае, а сам блёкбастэр пад назваю "Дзень S" чакае цябе наперадзе. Рыхтуйся. З надыходзячым цябе!**

**"Дзякуй! Я сам..."**

*У інтэрнаце № 3 БДУ з пакаленьня ў пакаленьне перадаецца наступная гісторыя. Аднаму з грамадзянаў КНР, што, як і шматлікія ягоныя суайчыньнікі, прыехаў на Беларусь вучыцца і жыў якраз у гэтым інтэрнаце, пасьля бурнага сьвяткаваньня Міжнароднага (!) дня студэнтаў захацелася "паглядзець на птушачак". Ён адчыніў вакно і сьмела рушыў проста на вуліцу... Дзякаваць Богу, жыў ён невысока, таму папросту кульнуўся на адбойнік (прычэпленая там такая штуковіна, каб студэнты ня кідалі абы-што на галовы мінакоў) і павіс, зачапіўшыся за яго рукамі. Студэнты ў парыве высакароднага інтэрнацыяналізму павытыркаліся з вокнаў: "Трымайся, брат! Зараз дапаможам!" "Дзякуй! Я сам!"- мужна адказаў сын Усходу і, павісеўшы хвіліну-другую, стомлена адпусьціў рукі... Устаў, абтросься і спакойна рушыў у інтэрнат.*

***Не паўтараць - небясьпечна!***

**"Гэх, хлопца б!"**

*Як вядома, у нашых інтэрнатах праблемы ня толькі зь цяплом, але й з асьвятленьнем. У адным зь інтэрнатаў БДУ, разьмешчаных у Гаі, дзяўчына, як сьлед адзначыўшы Дзень студэнта, вярталася позна ўначы ў свой пакой. І - трэба ж такому здарыцца!- пераблытала паверхі. Зайшла ў хлапечы пакой, дзе ўсе ўжо палеглі спаць, і ў цемры пачала распранацца. І тут ня вытрымала душа дзявочая адвечнае самоты: "Гэх, дзяўчаты, хлопца б зараз!" Ня ведаем, ці атрымала яна жаданае, але ад рогату прачнуўся ўвесь інтэрнат.*

***Не паўтараць... Хаця чаму не?***

* Магічная формула залежнасьці колькасьці пляшак ад колькасьці піткоў (N).

© Pavel Petrischev

Дана Карольчык

# Будзь мабільны!

*Мабіла, мабільнік, мабілка, хэндзі (ад анг. hand - рука), труба. Так часьцей за ўсё называюць свой "ручны скарб" уладальнікі мабільных тэлефонаў дый тыя, хто пра іх толькі марыць. Яшчэ год таму абсалютнай большасьці беларусаў толькі й заставалася, што мэдытаваць каля тэлевізараў, калі расейскія GSM-кампаніі рэклямавалі там мабільныя навінкі сэзону ды спакушальна нізкія кошты на свае паслугі. Па Менску ж з мабільнікамі далёка ня самых апошніх мадэляў тады сноўдалі толькі што "па ціпу крутыя". Аднак як бы ўпарта ні замыкалася Беларусь у сваім процістаяньні цывілізацыі, ад апошняй усё ж такі, жывучы ў цэнтры Эўропы, не ўцячэш. І дзякуй Богу, а то так бы і хадзілі з пэйджэрамі ў той час, калі ледзь ня кожны польскі школьнік паведамляе бабулі па мабіле, што ўжо едзе на абед. Сёньня мабільны тэлефон на Беларусі - яшчэ дорага, але ўжо даступна. А тут яшчэ нарэшце разыгралі доўгачаканы тэндэр, і ў Беларусі хутка зьявіцца другі GSM-правайдэр - расейская кампанія "Мабільныя ТэлеСыстэмы" (МТС). А гэта абяцае нам, спажыўцам і патэнцыйным кліентам, усе радасьці здаровай рынкавай канкурэнцыі: зьніжэньне коштаў, пашырэньне кола паслугаў, падвышэньне якасьці, рэклямныя акцыі ды неверагодных памераў усьмешкі на тварах прадаўцоў мабілак.*



## Што і за колькі?

Калі вы азадачыліся набыцьцём мабільнага тэлефона, то трэба ведаць, што вашыя выдаткі складаюцца з кошту самога апарата, платы за падключэньне да сыстэмы (гэта калі вы падпісваеце кантракт з пэўным правайдэрам), абанэнцкай платы й авансу, які вы павінны пакласьці на свой рахунак. Сёньня кампанія *Velcom* падключыць вас да сваёй сеткі прыкладна за 70 даляраў, зь якіх большую частку складае аванс (60 тысячаў рублёў - мінімальная сума). Ужо даволі працяглы тэрмін няжменнай застаецца абанэнцкая плата - 17 тысячаў штомесяц, а вось кошт непасрэдна падключэньня быў ня так даўна зьніжаны з 49 да 29 тысячаў рублёў. Зьніжка, як бачыце, не такая ўжо вялікая, як малюе рэкляма, але ўсё ж прыемная.

Самы танны апарат зараз каштуе прыкладна 80$ - гэта *Ericsson A 2628*, а самы дарагі (*Nokia 6210*) - 285$ Пра перавагі й недахопы розных мадэляў прыхільнікі кожнай зь іх могуць спрачацца бясконца. Прыкладам, *Nokia 6210* - гэта мадэль для бізнэсоўцаў: яна прыстасаваная для працы зь Інтэрнэтам, факсам, надзеленая зручным для працы арганізатарам, мае вышталцоны дызайн (плоская трубка без антэны). Адной з найболып прасунутых мадэляў на беларускім рынку сёньня лічыцца *Siemens FL 45*, паколькі яна мае MP-3 плэер. Гэта значыць, што калі з кампутара на гэты тэлефон скінуць мэлёдыю, то яе можна ня толькі выкарыстоўваць у якасьці званка, але й слухаць, як на звычайным плэеры.

Самымі папулярнымі сярод моладзі мадэлямі зьяўляюцца цяпер альбо самыя танныя *Ericsson*'ы, альбо *Nokia 3210* (ужо, праўда, не выпускаюцца, але можна набыць іх з рук даляраў за 80), а таксама *Nokia 3310* (у дылераў *Velcom* каштуе каля 150$) і *Siemens C 35* (маленькі апарацік зь вібразванком коштам прыкладна ў 120$).



## Дзе набываць?

Вышэйпералічаныя мадэлі па азначаных коштах вы можаце набыць у офісах *Velcom*, што гарантуе якасьць ды прафэсійную кансультацыю супрацоўнікаў аддзелу продажу. Аднак выбар тут даволі абмежаваны, дый кошты апаратаў ня самыя нізкія.

Калі ў вас багатая фантазія і вы не баіцёся рызыкнуць, то мабільны тэлефон можна набыць з рук. Гэта можа быць як патрыманы апарат (у такім выпадку вы, калі пашчасьціць, можаце танна набыць нават якую-небудзь прасунутую мадэльку), так і новы тэлефон, прывезены аднекуль з-за мяжы. Аднак вы рызыкуеце, бо пад выглядам новага тэлефона вам могуць прадаць крышку "падноўлены" з дапамогай зьменных панэлек стары апарат. І, натуральна, вы не атрымліваеце аніякіх гарантыяў.

Да таго ж вы самі можаце прывезьці мабілу з-за мяжы. Кошты там адчувальна ніжэйшыя, дый выбар большы. Напрыклад, той жа Siemens C 35 у Нямеччыне можна "адарваць" усяго за 50$, і гэта пры тым, што тэлефон ужо мае картку хвілінаў на 20 размоваў. Аднак па прыезьдзе на радзіму вам усё роўна наканавана патрапіць да мясцовых правайдэраў, каб тэлефон запрацаваў. У такім выпадку вы заплаціце ўсё тыя ж 70 даляраў за падключэньне плюс 40 тысячаў за раскадзіроўку (кожны апарат закадыраваны пэўнай кампаніяй).

У прынцыпе, *Velcom* падключыць вас да сваёй сеткі і без апарата (вы папросту падпішаце кантракт і атрымаеце нумар ды рахунак). Так што раскадыраваць ваш тэлефон могуць І народныя ўмельцы меншым коштам, але з большай рызыкай.



## Аксэсуары

Гэта якраз тое, што набываць не абавязкова, але вельмі хочацца. Самы просты аксэсуар да мабільніка- гэта чахол. Рэч сапраўды патрэбная, каб ваш апарат не падрапаўся і працаваў доўга. Аднак, па сьведчаньнях прадаўцоў розных аксэсуараў, моладзь чахлы практычна не набывае (гэта прэрагатыва тых, хто прыдбаў мабільны тэлефон для працы). Попытам сярод маладых людзей карыстаюцца зьменныя панэлі ды розныя сумачкі. Зьменныя панэлі прадаюцца на рынках ды ў гандлёвых цэнтрах кшталту "Паркінгу" і каштуюць ад 8-9$ да 25-40$ (фірмовыя панэлькі). Выглядае весела й крута, прытым што больш-менш прыстойны чахол цягне даляраў на 12. Калі ж вы япі, то можаце й сумачку прыдбаць (даляраў за 20), але якая-небудзь *Motorola* ў ёй глядзецца ня будзе!



## Колькі вы рэальна плаціце штомесяц?

Мінімум гэта 17 тысячаў абанэнцкай платы плюс плата за зыходныя званкі (уваходныя - бясплатна для вас, але адчувальна для тых, хто тэлефануе вам). Першы месяц карыстаньня мабільнікам падасца вам казкай: вы размаўлялі на ўсю катушку, а заплацілі якіх-небудзь тысячаў трыццаць! Але не забывайцеся, што пры падключэньні вы паклалі на рахунак аванс у 60 тысячаў, які й выдаткоўвалі цягам першага месяца. Таму не зьдзіўляйцеся, калі праз пару дзён пасьля першай месячнай платы вам прыйдзе ветлівы SMS (кароткае тэкставае пасланьне) ад *Velcom* з просьбай тэрмінова даплаціць. Справа ў тым, што на вашым рахунку павінна ўвесь час быць ня менш за 20% ад сумы перадаплаты (гэта ў сярэднім 20 тысячаў). Калі на рахунку мінус, то вам яшчэ раз настойліва запрапануюць даплаціць, а калі вы гэтага ня зробіце, то адключаць зыходныя званкі, а празь нейкі час і ўваходныя.

Каб не дапусьціць гэтага, калі адчуваеце, што шмат размаўлялі, пакладзіце дзесяць-дваццаць тысячаў на свой рахунак (гэта можна зрабіць практычна ў любым паштовым аддзяленьні, назваўшы свой нумар і прозьвішча). Вы таксама можаце патэлефанаваць у спэцыяльную службу *Velcom* і даведацца больш дакладна, колькі вы мусіце даплаціць, калі вы яшчэ не зусім добра арыентуецеся ў коштах. Званок, дарэчы, у гэтую службу бясплатны. Майце на ўвазе, што ваш плацеж прыходзіць на *Velcom* толькі на наступны дзень. Таму не зьдзіўляйцеся, калі зранку вы заплацілі, а праз пару гадзінаў вам выключылі зыходныя званкі. Сьмела тэлефануйце правайдэру і паведамляйце апэратару нумар квітанцыі аб аплаце - ваш тэлефон будзе падключаны праз 40 хвілінаў.

Аднак ва ўсіх гэтых даплатах ёсьць адна небясьпека. На працягу месяца вы такімі невялікімі разавымі даплатамі можаце "ўляцець" на нечакана кругленькую суму. У сярэднім, пры ўмове, што вы ня будзеце жудасна эканоміць на званках, а будзеце карыстацца тэлефонам у нармальным рэжыме разьлічвайце даляраў на 40 у месяц.



## Чым нам сьвеціць МТС?

Безумоўна ўсе чакаюць на прыход новага правайдэра. Кампанія *Velcom* увесь час пашырае зону пакрыцьця й падвышае якасьць прыёму сыгналу, але не хавае, што рыхтуецца зараз да зьяўленьня канкурэнта. Ужо зьніжаны кошт на падключэньне, таньнейшымі зрабіліся SMS (усяго 100 рублёў за пасланьне!). Магчыма, зьнізяцца тарыфы і, безумоўна, будуць праводзіцца рэклямныя акцыі кшталту *PRIVET*. Так што не прапусьціце выгодныя прапановы!

МТС са свайго боку абяцае вельмі хутка ўвайсьці на Беларусь і нават працаваць стратна для сябе першыя пяць год, каб толькі замацавацца на рынку й забясьпечыць сотні тысячаў беларусаў мабільнымі тэлефонамі. Аднак наўрад ці трэба чакаць, што МТС на Беларусі запрапануе такія ж самыя тарыфы, як, скажам, у Маскве. Пры такім раскладзе кампанія ў бліжэйшыя год 15 не атрымае тут прыбытку. Відавочна, тым ня менш, што мабільны рынак зрушыўся. Асноўнае пытаньне для тых, хто яшчэ ня мае мабільніка, але ўжо вельмі хоча яго мець: ці трэба чакаць на пачатак працы новага правайдэра? Калі вы сапраўды загарэліся і штохвіліны думаеце пра мабілу, то ня трэба! Бяжыце, набывайце, атрымлівайце задавальненьне! У скрайнім выпадку, калі МТС сапраўды запрапануе фантастычна малыя тарыфы, правайдэра заўжды можна зьмяніць (і гэта дакладна ня будзе каштаваць вельмі дорага). Ды, зрэшты, як прыемна будзе адчуць уласную важкасьць, калі за вас будуць змагацца некалькі фірмаў! Вось яна, сапраўдная асалода ад мабілы!



# Цэнтар культурных абменаў

Дар'я Сітнікава

*"Таіці, Таіці... Не былі мы ні на якой Таіці! Нас і тут няблага кормяць!.." Тлустаму рыжаму кату з мульціка пра папугая Кешу можна мармуровы помнік за патрыятызм ставіць. Але такія абывацельскія развагі павінны раз і назаўжды пакінуць сьветлыя галовы прасунутых студэнтаў. Нявылазна сядзець у краіне "прапіскі і скручаных кранаў" проста шкодна для маладога сьвядомага арганізму. Бо апошні настойліва патрабуе "эўрапейскасьці" тут і цяпер. А паколькі ў бліжэйшую пяцігодку гэтым патрабаваньням зьбольшага будуць адпавядаць хіба што межы нашай краіны на сусьветнай мапе, выйсьце адно: парадаваць бабульку-Эўропу (Амэрыку, Азію, Афрыку etc.) сваёй прысутнасьцю.*

Адной з арганізацыяў, што займаюцца "транспартаваньнем" студэнтаў па-за межы нашае краіны, ёсьць ***Цэнтар культурных абменаў***. Зь ягонай дапамогай у нармалёвага беларускага студэнта ёсьць магчымасьць часова "эміграваць" у ЗША, Ангельшчыну, Аўстрыю, Нямеччыну, Данію, Францыю, Ірляндыю, а пры вя-я-ялікім жаданьні - нават у Паўднёва-Афрыканскую Рэспубліку.

## Што для гэтага трэба?

**Па-першае**, веданьне замежнай мовы. Пададзе ангельская, нямецкая, француская. Узровень вашага шпрэханьня будзе ацэнены на сумоўі з цэнтраўскімі спэцыялістамі.

**Па-другое**, пачак разнастайных дакумэнтаў. Большасьць праграмаў вымагае такіх паперак, як анкета (біяграфічныя зьвесткі, матывацыя ўдзелу ў праграме, асабістыя здольнасьці й схільнасьці й г. д.), мэдычная даведка, ліст-прадстаўленьне, ліст-матывацыя, дакумэнтальнае пацьверджаньне студэнцкага статусу, лісты-рэкамэндацыі (звычайна адзін-два), копіі пашпарту, 2-4 фотаздымкі пашпартнага памеру (абавязкова з усьмешкай!), *Curriculum Vitae*, а гэтаксама міжнародная студэнцкая картка. Апошняя каштуе ўсяго 2.500 "драўляных", і па яе можна зьвярнуцца ў *Youth Travel Center* (вул. Варвашэні, 17-101, тэл./факс: 213-41-87, 239-17-49).

**Па-трэцяе**, такая "дробязь", як грошы. Выдаткі, як запэўніваюць супрацоўнікі Цэнтру, кампэнсуюцца ў першы ж месяц знаходжаньня па-за роднымі сьценамі.

**І яшчэ.** Калі вы мяркуеце наступным летам зваліць "за бугор", варта ўжо зараз прыгадаць, як выглядае дэкан вашага факультэту ў прыватнасьці і супрацоўнікі дэканату ўвогуле: вам спатрэбіцца дазвол на датэрміновую здачу сэсіі. Таму што большасьць праграмаў летнія, і разьлічаныя яны мінімум на 3 месяцы: чэрвень, ліпень, жнівень.

Дык дзе ж, навошта і за колькі можна апынуцца ў выніку плённай працы Цэнтру культурных абменаў?

### Магчымасьць першая - *WORK AND TRAVEL IN THE USA*

Гэтая праграма амэрыканскай некамэрцыйнай арганізацыі *WISE* (*Worldwide International Student Exchange*) прапануе замежным студэнтам папрацаваць абслугаю ў Амэрыцы. Праграма разьлічаная максымум на 4 месяцы, тры зь якіх вы старанна працуеце. А потым... Потым цэлы месяц вандруеце па абшарах ЗША на здабытыя ўласным мазалём грошы.

Як амаль усе амэрыканскія працоўныя праекты, *Work&Travel* разьлічаны на маладых асобаў ва ўзросьце ад 18 да 24 гадоў, у добрым здароўі і цьвярозай памяці, здатных усімі магчымымі й немагчымымі спосабамі дэманстраваць шчырую цікаўнасьць у вывучэньні амэрыканскага ладу жыцьця і культуры.

*Work&Travel* мае дзьве варыяцыі: *Self-Placement Option* і *Job-Placement Option*. *Self-Placement Option* прадугледжвае адмысловую візу для студэнтаў *J-1*, мэдычную страхоўку на тэрмін дзеяньня праграмы, авіяквіткі, "прэзэнтуйную" арыентацыю і 24-гадзінную падтрымку прадстаўніка *WISE* на выпадак надзвычайных сытуацыяў. Працоўнае месца вы шукаеце сабе САМІ. *Job-Placement Option* прапануе ў дадатак да ўсяго паслугі Цэнтру і яго замежных партнэраў па пошуку месца працаўладкаваньня пэрсанальна для вас і арыентацыю па прыбыцьці ў ЗША. Вас чакае 40-гадзінны працоўны тыдзень, аплата $6-15 у гадзіну. Гэта тое, што заплацяць вам. Вы ж павінны будзеце раскашэліцца на $1270 за *Self-Placement* і на $1350 за *Job-Placement*. Дадайце да гэтага $45 (кошт візы) і банкаўскі збор за перавод грошай у памеры $11 за раз. Да таго ж неабходна мець пры сабе кішэнныя грошы на ўсялякі пажарны сумай $100-200.

### Магчымасьць другая - *WORK EXPERIENCE IN THE UK*




Праграма распрацаваная адмыслова для асобаў, якія вучацца займацца гатэльным бізнэсам і турызмам. *Work Experience* разглядаецца як частка навучальнага курсу. Кошты: 750 фунтаў стэрлінгаў (прыкладна $1230) за 3-6 месяцаў, 850 фунтаў (прыкладна $1400) - за 6-12. У гэты кошт уваходзяць квіткі, мінімум 70 фунтаў (каля $115) на тыдзень кішэнных грошай, жытло й харчаваньне ў гатэлі. Ёсьць магчымасьць абраць месца працы. На Лёндан можаце не замахвацца - ён у геаграфію праграмы не ўваходзіць. Моўных курсаў і мэдычнай страхоўкі таксама ня будзе. Праграма не дазваляе ўдзельнікам працаваць дзе-небудзь яшчэ, акрамя пэўнага гатэлю. Інакш вам сьвеціць дэпартацыя, і Ірляндыю і Брытанію вы ўбачыце ў сваім жыцьці ўжо толькі па тэлевізіі...

### Магчымасьць трэцяя- *AGRICULTURAL WORK EXPERIENCE PROGRAM IN THE USA*

Самая карысная для нашай дзяржавы праграма. Па ёй, дарэчы, вядзецца актыўнае прыцягненьне студэнтаў БАТУ. Праграма, прэзэнтаваная *WISE*, прапануе абраць па сваім гусьце фэрму або ранча. І папрацаваць там ад 3 да 12 месяцаў. У дадатак да згаданых напачатку дакумэнтаў спатрэбіцца пацьверджаньне, што вы студэнт дзённага аддзяленьня (ці аспірант) ВНУ з канкрэтным сельскагаспадарчым ухілам. Бо праграма распрацаваная толькі для асобаў, якія ў стане адрозьніць жыта ад пшаніцы, а ёркшырскую сьвіньню ад белай буйной. У праект уваходзяць працоўнае месца ў сельгасструктуры ЗША - прычым увесь час вы павінны працаваць толькі на абранай фэрме,- харчаваньне і жытло на фазэндзе, кішэнныя грошы ў памеры $450 у месяц, гарантаваны выходны, страхоўка і авіяквіткі "туды-назад". Па заканчэньні - сэртыфікат. Каштуе такое задавальненьне $1000 за 3-6 месяцаў і $1350 за 6-12. Гіпатэтычныя наступствы заморскай стажыроўкі: з вашай лёгкай рукі мэтады амэрыканскіх фэрмэраў укараніліся ў калгасе "Гарадзец". Брыгадзіры ў каўбойскіх капелюшах, жывёла накормленая, тэхніка дагледжаная. І, галоўнае, усе працуюць!!! Рамантыка...

Гіпатэтычныя наступствы заморскай стажыроўкі: з вашай лёгкай рукі мэтады амэрыканскіх фэрмэраў укараніліся ў калгасе "Гарадзец". Брыгадзіры ў каўбойскіх капелюшах, жывёла накормленая, тэхніка дагледжаная. І, галоўнае, усе працуюць!!!



### Магчымасьць чацьвертая, адукацыйная - *HOMESTAY IN THE USA*

Сутнасьць у тым, што навучэнцы 13-20 гадоў маюць магчымасьць скамбінаваць адпачынак і вандроўкі з вывучэньнем ангельскай мовы. "Лэнгвідж" вы будзеце засвойваць як на адмысловых лінгвістычных курсах, так і падчас разнастайных экскурсіяў. Дзякуючы *Homestay* можна наведаць самыя прывабныя мясьціны Амэрыкі - Флёрыду, Сан-Францыска, Бостан, Лёс-Анджэлес і інш. А таксама выпрабаваць амэрыканскую гасьціннасьць на ўласнай скуры - увесь тэрмін дзеяньня праграмы (1-8 тыдняў) вы будзеце жыць у амэрыканскай сям'і.

Дзякуючы Homestay можна наведаць самыя прывабныя мясьціны Амэрыкі- Флёрыду, Сан-Франціска, Бостан, Лёс-Анджэлес і інш. А таксама выпрабаваць амэрыканскую гасьціннасьць на ўласнай скуры - увесь тэрмін дзеяньня праграмы (1-8 тыдняў) вы будзеце жыць у амэрыканскай сям'і.

### Вас шукаюць!

Як вы ўжо пасьпелі ўпэўніцца, за вашыя грошы Цэнтар культурных абменаў адправіць вас, куды пажадаеце(-це). Але дзеля высакародных памкненьняў Цэнтар вырашыў абвесьціць конкурс пад загадкавым назовам *"Мы шукаем таленты"*: па праграмах *Agricultural Work Experience* і *Work Experience* разыгрываецца *1 дармовае (!!!) месца*. Каб паехаць на халяву, патрэбна мець выдатную залікоўку і аналягічную ангельскую. Прыдадуцца і сэртыфікаты зь міжнародных канфэрэнцыяў або выдатныя прафэсійныя рэкамэндацыі.

### Немагчымасьць

Апроч усіх тых прывабных магчымасьцяў, існуе пэўная верагоднасьць таго, што супрацоўнікі амбасады той ці іншай краіны па толькі ім вядомых прычынах могуць адмовіць у атрыманьні візы. У такім выпадку плакала вашая вандроўка, пэўная колькасьць грошай за паслугі і, па ўсім відаць, магчымасьць калі-небудзь яшчэ паўдзельнічаць у праграмах студэнцкага абмену. Бо перад тым як пачаць падрыхтоўку вашай пэрсоны да замежнай паездкі, супрацоўнікі Цэнтру абавязкова пацікавяцца, ці не адмаўлялі вам калі-небудзь у візе...

**P.S.**

На момант выхаду нумару будуць дакладна вядомыя ўмовы набору па цэнтраўскіх праграмах *WORK & STUDY IN THE UK* і *AMERICAN CAMP*. Па гэтых і астатніх пытаньнях зьвяртайцеся на вуліцу Сурганава, 47 (будынак інтэрнату БДПА). Кантактны тэл./факс: 231-16-93, тэл.: 202-00-81. Падрабязная інфармацыя пра дзейнасьць Цэнтру з "карцінкамі" і апісаньнямі - на сайце www.gcce.org.

Цэнтар культурных абменаў абвяшчае конкурс "Мы шукаем таленты": па праграмах Agricultural Work Experience і Work Experience разыгрываецца 1 дармовае (!!!) месца.



# Беларускія студэнты працуюць у ЗША

Тацяна Сапега

*Часьцяком нашыя вочы спыняюцца на таямнічых абвестках, што запрашаюць студэнтаў папрацаваць у ЗША. Аднакурсьнікі распавядаюць пра знаёмых, якія файна правялі вакацыі ў Штатах. Напэўна, у кожнага, хто не пазбаўлены авантурнасьці, хоць аднойчы ўзьнікала жаданьне рызыкнуць і рвануць у далёкую краіну на пошукі прыгодаў. Я сустрэлася зь дзяўчатамі, што рэалізавалі сваё мары і дабраліся да ЗША. Сьпадзяюся, іх досьвед і парады будуць для вас карыснымі.*




**Дыяна (21 год). Езьдзіла працаваць у ЗША, калі навучалася на 2 курсе Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту**

Дыяна даведалася пра магчымасьць папрацаваць у ЗША ва ўнівэрсытэце ад сяброўкі. Загарэлася адразу. Асаблівых мэтаў ня ставіла і шмат не чакала. Проста хацела вырвацца з дому і паглядзець іншую краіну. Па прыезьдзе ў далёкі Віскансын, што на поўначы ЗША, Дыяна, працуючы ў дзіцячым летніку, адразу апынулася сам-насам з "амэрыканскай рэчаіснасьцю". Працу ў летніку можна выбіраць самім - ад выхавацелькі да прыбіральшчыцы. Усе чатыры месяцы Дыяна працавала ў варэльні, мыла посуд. Вядома, цікавага ў такім занятку няшмат. Але больш прэстыжныя "пасады" вымагалі, натуральна, добрага валоданьня мовай. Дыяна ж у першыя месяцы зь цяжкасьцю разумела ангельскую (вось так і выплываюць хібы нашае адукацыі!). У летніку працавалі студэнты з Украіны, Польшчы, Чэхіі, Расеі, Прыбалтыкі. Дыяна зазначыла, што моладзь з краінаў былога СССР адрозьнівалася зьбольшага нежаданьнем і няўменьнем працаваць. Таму ўвесь час адчувалася незадаволенасьць з боку працадаўцаў. Дыяна не плаціла за пражыцьцё і харчаваньне. Заробак атрымлівала невялікі, але наступны год навучаньня ў БДУ здолела аплаціць сама.

На пытаньне "Ці хацела б паехаць па такой праграме яшчэ раз?" Дыяна бяз роздуму адказала:"Так".

**Вольга (22 гады). Езьдзіла працаваць у ЗША, калі навучалася на 3 курсе Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўнівэрсытэту**

Вольга даведалася пра магчымасьць папрацаваць у ЗША ад унівэрсытэцкае сяброўкі і зьвярнулася ў Міжнародны цэнтар абменаў. У Цэнтры прапанавалі некалькі варыянтаў працы. *Першы*, найбольш танны і найменш прывабны-праца ў дзіцячым летніку. Летнікі знаходзяцца пераважна ў маленькіх гарадках ці нават у лесе. Такі варыянт не дазваляў ані зарабіць грошай, ані пабачыць ЗША. Можна спыніцца на *другім варыянце*, калі Цэнтар падбірае для цябе працу. Гэты варыянт лягчэйшы за трэці, але мае свае недахопы:

паслуга каштуе дадатковых "капеек", і калі, ужо ў ЗША, табе не спадабаецца падабраны варыянт, ты ня маеш права ад яго адмовіцца.

Наступны, *трэці варыянт*: ты сам знаходзіш сабе працу. Вольга шукала працадаўцаў па каталёгах і ў Інтэрнэце на адпаведных сайтах, інфармацыю пра якія атрымала ў Цэнтры. На знойдзеныя адрэсы дасылала лісты і мэйлы. Праз пэўны час мела шэраг прапановаў, зь якіх ужо выбірала найбольш прывабны й выгодны варыянт.

Пры выбары працы трэба добра ўсьведамляць мэты сваёй паездкі. Калі мэта - "адцягнуцца", то лепей выбіраць вялікі горад, дзе можна шмат зарабіць і адразу пакінуць усе грошы ў клюбах, дыскатэках і крамах. Калі ж маем за мэту зарабіць грошай, то лепш выбраць невялікі горад, дзе таксама нядрэнныя заробкі, але няма вялікіх спакусаў. Вольга выбрала працу пакаёўкай у невялікім курортным гарадку на ўзьбярэжжы Атлянтычнага акіяну, у штаце Паўночная Караліна…

***Nota Bene!*** *Каб зьехаць улетку, неабходна ўжо за год, да кастрычніка, падрыхтаваць усе дакумэнты. На працягу году кандыдаты праходзяць сумоўі зь беларускімі і, пазьней, з амэрыканскімі прадстаўнікамі Цэнтру. На сумоўі з амэрыканцамі не рэкамэндуецца казаць, што мэта тваёй паездкі - грошы. Не таму, што гэта неэтычна. Папросту тая сума, якую могуць зарабіць студэнты па праграмах абмену, лічыцца ў Амэрыцы мізэрнай, і такое абгрунтаваньне будзе гучаць неперакануўча. Кажэце лепей пра мары пабачыць цудоўную Амэрыку, пазнаёміцца з культурай краіны, удасканаліць ангельскую, знайсьці новых сяброў.*

…У абавязкі пакаёўкі ўваходзіла прыбіраньне пакояў у гатэлі. Вольга мела добры заробак, бескаштоўнае пражыцьцё й харчаваньне. Жыльлёвыя ўмовы былі проста зайздросныя: вялізны пакой з лазенкай, кухняй і ўсімі "прыбамбасамі" - ад кандыцыянэра й лядоўні да пральнае машыны й тэлевізара. Вольга мела свой ровар, а часам гаспадары дазвалялі нават карыстацца аўто для паездак у кіно ці ў краму па прадукты. Хіба ня казка?

Не, ня казка. У дадатак да асноўнага занятку Вольга знайшла яшчэ працу афіцыянткі ў рэстарацыі, дзе рабіла з 16.00 да 23.00 тры разы на тыдзень. Такім чынам, часам даводзілася працаваць па 15 гадзінаў на содні. Вольга ехала ў ЗША з добрым валоданьнем мовай. Спачатку былі праблемы, але збольшага псыхалягічныя: страх размаўляць. Праца афіцыянткі прымусіла разгаварыцца і дапамагла зламаць псыхалягічны і моўны бар'еры.

Пасьля чатырох месяцаў працы перад студэнтамі паўстае праблема: вяртацца дадому ці заставацца ў ЗША. Найбольш востра пытаньне стаіць для беларусаў, бо студэнты ведаюць: атрымаць візу па такой праграме другі раз малаверагодна. Вольга ўпэўненая, што калі б беларускія студэнты без праблемаў маглі езьдзіць па такіх абменах, то рашэньняў застацца ў ЗША было б значна меней.

***Nota Bene!*** *Па заканчэньні працоўнае візы студэнты, якія вырашылі застацца, павінны падаць дакумэнты праз адваката на атрыманьне турыстычнае візы. Адказ прыходзіць прыкладна праз паўгоду. У гэты час афіцыйна працаваць вы ня маеце права, але знайсьці нелегальна працу афіцыянткі ці пакаёўкі можна заўсёды. Па турыстычнай візе вы знаходзіцеся ў ЗША яшчэ паўгоду. За паўтара году рэальна зарабіць прыстойную суму і добра вывучыць мову, каб падаць дакумэнты ў коледж і затым атрымаць студэнцкую візу. У коледжы можна навучацца ад 1 да 3 гадоў, і навучаньне тут удвая таньнейшае за ўнівэрсытэцкае. Ёсьць магчымасьць падпрацоўваць у самім коледжы, але заробак тут невялікі. Таму моладзь падпрацоўвае нелегальна пасьля заняткаў і ў часе вакацыяў.*

…Вольга зарабіла грошай, удасканаліла сваю ангельскую, паглядзела краіну. Вельмі шкадуе, што такія праграмы існуюць толькі для студэнтаў.

**Юля (22 гады)**

Юля мае цьмянае ўяўленьне пра праграмы працаўладкаваньня за мяжой. Яна ніколі гэтым і не цікавілася, бо не разглядае для сябе такі варыянт як жаданы. Юля лічыць ганьбаю ехаць за мяжу і выконваць там "трэцясортную" працу. Чалавек павінен жыць і працаваць на радзіме, а за мяжу езьдзіць з грашыма - адпачываць. Прыбіраць замежныя вуліцы і атрымліваць меней, чымся за тую самую працу маюць "абарыгены", - сорам для адукаванага чалавека! Неабходна шукаць добрую працу ў сваёй краіне. Да таго ж, ніякія грошы ня вартыя таго дыскамфорту, які можаш адчуць, апынуўшыся на чужыне, лічыць Юля.



# Belarusian International Exchange Center

Дар'я Сітнікава

*Вы сьпіцё й бачыце, як бы гэта пажыць тыдняў зь 9 у нечым сярэднім паміж кватэрай і намётам на ўлоньні прыроды? І пры гэтым вылучаецеся здольнасьцямі правільна зьвязваць словы па-ангельску? І папрацаваць хочаце? Дык вось, калі вы мелі неасьцярожнасьць у якасьці адказу станоўча пахітаць галавою, ведайце: вашая пэрсона - якраз тое, што проста да зарэзу патрэбна адному з амэрыканскіх летнікаў у наступным годзе. А прыйсьці да ўзаемапаразуменьня з амэрыканскімі таварышамі на гэтай глебе дапаможа* Belarusian International Exchange Center *беларускі партнэр* Camp Counselors USA (CCUSA).

Кожнае лета амэрыканскія дзеці й падлеткі (ад 5 да 17 гадоў) хуценька спакоўваюць валізкі й накіроўваюцца ў адмысловыя летнікі. Такіх ахвотнікаў штогод знаходзіцца мільёнаў сем. Адпачынак гэткага кшталту - адна са "старажытных" традыцыяў амэрыканскага народу. Гэта як, напрыклад, бэйсбол або індычка з рысам на сьвята.

Зразумела, вы не малыя амэрыканцы, а нармалёвая беларуская моладзь. І менавіта вам *CCUSA* прапануе ў гэтых летніках папрацаваць. Такім чынам, ёсьць рэальная магчымасьць зрабіць свой унёсак у высакародную справу выхаваньня маладое генэрацыі. Згодна з праграмай, працаваць можна на "пасадзе" *counselor* (нешта кшталту піянэрважатага) або ў якасьці *support staff* (абслуга). *Counselors* падзяляюцца ў сваю чаргу на *general counselors* і *specialist counselors*.

На *general counselor* ускладаецца адказнасьць за ўсе дзеяньні адпачывальнікаў. Трэба сплянаваць, ачоліць, прыцягнуць усіх ахвотных і неахвотных да ўсемажлівых відаў адпачынку. Распавядаць казкі нанач і спраўджваць, ці ўсе паснулі, - таксама ў вашай кампэтэнцыі. Жывуць *counselors* у тых жа апартамэнтах, што й кэмпаўцы. Асаблівай маральнае падрыхтоўкі вымагае абавязак падпарадкоўвацца агульнапрынятым летнікавым правілам: адбой па раскладзе (у 22:30 - заўтра ў 7:00 уставаць!), сьпіртовыя напоі не расьпіваць ды не смаліць, каб не падаваць дрэнны прыклад.




На сумленьні *specialist counselor* ляжыць распрацоўка пляна навучаньня кэмпаўцаў розным відам дзейнасьці. Увогуле ў амэрыканскім летніку ёсьць чым заняцца: ад ткацтва й ганчарнае справы да дайвінгу й балету. Атрымліваюць *counselors* за сваю працу 575-675$ (у праграме гэта - значыцца як *pocket money*).

*Support staff* - у больш выгодным становішчы: адказнасьці меней, а грошай болей. Папрацаваць, праўда, давядзецца шмат - 12 і болей гадзінаў у дзень. *Support staff* - надзея й апора любога кэмпа ў офісе, у варэльні, пральні… Офісная праца ў якасьці сакратаркі, машыністкі, тэлефаністкі etc. - прывілей асобаў з найлепшай ангельскай і досьведам працы ў англамоўных краінах. Можна з посьпехам асвойтацца ў варэльні: мыць посуд, падмятаць падлогу, наразаць салату ці выпякаць пончыкі. Але калі ў вас за плячыма кухарская мінуўшчына, будзьце ўпэўненыя - чысьціць бульбу такі "талент" не прымусяць! Калі маеце досьвед у такіх неабходных у кэмпе прафэсіях, як водаправоднік, кіроўца, электрык, цясьляр, - ёсьць магчымасьць працаваць па "спэцыяльнасьці".

Для ўладкаваньня ў якасьці *support staff* абавязкова трэба быць студэнтам або толькі што скончыць навучаньне. Бо ўвогуле праграма *CCUSA* разьлічаная на маладзёнаў 18-26 гадоў. Яна прадугледжвае працоўнае месца ў амэрыканскім кэмпе мінімум на 9 тыдняў, максымум - на 17. Прычым калі вы выявіце жаданьне папрацаваць звыш мінімуму, за кожны "лішні " дзень да вашага "акладу" дадасца $35. У камплект *CCUSA* уваходзяць віза J-1, праезд зь нью-ёрскага аэрапорту да кэмпа, а таксама мэдычная страхоўка, квіткі, жытло, харчаваньне й паслугі па пошуку працы. Ацэньваецца праграма ў $450. Зразумела, дадайце сюды кошт візы, банкаўскі "пабор" за перавод грошай і абавязкова - гэта прапісана ў дамове - кішэн-ныя грошы сумай мінімум $150. Працаваць давядзецца толькі ў летніку. У выпадках парушэньня гэтай і іншых умоваў праграмы ўсё будзе "дакладзена" адпаведным органам.

Ад вас - добрае веданьне ангельскай (як па сакрэце паведамілі нам прадстаўнікі BIEC, хопіць школьных ведаў, якія ў нармалёвых установах кампэтэнтнымі пэдагогамі ацэненыя на "5"), пажадана - досьвед працы зь дзецьмі або спартовыя здольнасьці, анкета й іншыя дакумэнты (фотаздымкі, мэдычная даведка etc.) і міжнародная картка ISIC, якая ўдзельнікам праграмы прэзэнтуецца задарма.

Яшчэ адна праграма, якую прэзэнтуе *BIEC, - Work Experience USA (WEUSA)*. Працягласьць ад 1 да 4 месяцаў. *WEUSA* - найвыгаднейшы спосаб скамбінаваць адпачынак, падарожжа і зарабіць грошы! Большасьць вакансіяў, на якія вы можаце прэтэндаваць, падобная да тых, што прапануюцца амэрыканскім студэнтам. Праца, зразумела, некваліфікаваная і вымагае адказнасьці разам з пэўнымі высілкамі. Аплата - мінімум $5,25 за гадзіну. У *WEUSA* існуе магчымасьць уладкавацца адразу ў двух месцах і зарабіць больш. Звычайны набор: праца ў гатэлях, рэстарацыях і маленькіх крамках (а таксама на курортах акіянскага ўзьбярэжжа, нацыянальных парках кшталту Гранд Каньён ці Елоўстоўн і г. д.). *WEUSA* прапануе два варыянты рэалізацыі праграмы: *Independent* (працу вы шукаеце самі) і *Security* (усе праблемы вырашаюць за вас). Кошты: *Independent* - 1270$, *Security* - 1350$. Жытло й харчаваньне ў гэтую суму не ўваходзяць, так што прыплюсуйце да ўсяго сярэдні кошт кватэры (200$ за месяц), грошы на дарогу да месца працы й іншыя выдаткі. Таму ўдзельнік абавязаны мець у наяўнасьці суму ў $350 па прыбыцьці ў нью-ёрскі аэрапорт.

**У амэрыканскім летніку ёсьць чым заняцца: ад ткацтва й ганчарнае справы да дайвінгу й балету. Атрымліваюць *counselors* за сваю працу 575-675$ (у праграме гэта значыцца як *pocket money*).**





Такім чынам, думайце, выбірайце, але не зацягвайце працэс - 20 лістапада, як кажуць амэрыканцы, надыдзе поўны *deadline*. Каб рэалізаваць свае мэркантыльныя задумы й мары, прыходзьце: Менск, вул. Хмяльніцкага, 8-407; тэлефануйце: 232-25-10, 232-44-61; "мыльце": iec@ice.belpak.minsk.by.

**Вашая пэрсона-якраз тое, што проста да зарэзу патрэбна адному з амэрыканскіх летнікаў у наступным годзе!**

А таксама:

у Горадні: вул. Кастрычніцкая, 4-128, тэл. (0152) 72-01-41;
у Берасьці: вул. Савецкая, 46, тэл. (0162) 23-60-89;
у Гомлі: Кастрычніцкі пр., 46а, тэл. (0296) 47-91-31.



***ГІСТОРЫЯ ХВАРОБЫ СУБ'ЕКТА: Танюша Сулімава***

*Тыповая прадстаўніца менскіх golden loosers - маладых местачкоўцаў, якія ў сярэдзіне 90-х, па зьмене палітычнага рэжыму і сыходзе бесклапотнага дзяцінства, не пасьпелі самаідэнтыфікавацца ў якасьці уаррі, а таму пачалі прэтэндаваць на ролю lucky creator як адну з самых адэкватных магчымасьцяў заявіць пра сябе. У выніку - паступленьне і пасьпяховае навучаньне на рэжысэрскім факультэце Беларускай Акадэміі Мастацтваў, пастаноўка спэктаклю на культавай "Вольнай сцэне" і безумоўнае прызнаньне крытыкай. Апошняе спараджае комплекс нерэалізаванай "зоркі", які правакуе ў суб'екта новую creator-хвалю. Пазыцыяваньне на несфармаваным менскім шоў-рынку ў якасьці поп-дзівы з задаткамі сэкс-бомбы вузкага радыюсу дзеяньня напачатку працякае досыць упэўнена. Мадэратура на самай рэйтынгавай менскай FM-станцыі, выдатна падабраны dj-імідж "поўнагадовай Лаліты", які апэлюе да мужчынскіх комплексаў, з-за адсутнасьці агрэсіўнасьці хутка саманівэлюецца, а пазьней самазьнішчаецца. Далейшыя спробы матэрыялізаваць поп-вобраз у апрыёрна правальных ТБ-праектах ("Будни", "Вечерний экспресс", "Добрай раніцы, Беларусь") сканчваюцца прагрэсаваньнем рэцыдываў looser'ства зь іх далейшым пераходам у хранічную форму.*

***цудоўнай жанчынай Сьвятланай Кашыцкай?***

**Т.С.:** У мяне няма журналісцкае адукацыі. Таму я ня ведаю, што пісаць, як пісаць. Але ў гэтым ёсьць свае плюсы, бо нават падчас вайсковых дзеяньняў на поле часам выпускаюць навічкоў, каб яны сьвежым вокам зірнулі на абставіны. Калі хочаш стаць прафэсійным журналістам, трэба сканчваць журфак, і лепей МДУшны: больш пэрспэктываў. Сваю ж калёнку я пішу, як ліст сяброўцы. Не складаю, не прадумваю - проста сядаю, бяру паперу й пішу пра тое, што мне цікава, што мне падаецца актуальным. А паколькі я ймкнуся сабе ня хлусіць і я дзіця гэтага часу, дык са мною пагаджаецца яшчэ якаясь праслойка грамадзтва. Пісаць складана: тут у цябе няма зьнешніх сродкаў твару, голасу. Ёсьць толькі слова. Як напішаш, так і прачытаюць. Ты ня можаш упрыгожыць слова інтанацыяй, усьміхнуцца. Таму мусіш напісаць так, каб усе зразумелі, што ты ў дадзены момант усьміхаешся.

**"Пігаліца!"**

**"CD":** ***Усе Вашыя праекты зьнітаваныя з публічнасьцю. Да чаго Вы ймкнецеся?***

**Т.С.:** Жанчына - істота сацыяльная. Мне падабаецца знаходзіцца сярод людзей, несьці сябе, даведвацца пра іншых. Калі я паступала ў тэатральны інстытут, мяне абазвалі "пігаліцай і какеткай". І я ня бачу ў гэтым нічога кепскага.

**"CD":** ***Вобраз гэтае пігаліцы й какеткі праходзіць чырвонай ніткай праз усю Вашую дзейнасьць…***

**Т.С.:** Гэта я. Я б хлусіла, калі б казала, што мне абыякава, як да мяне ставяцца мужчыны й ці падабаюся я людзям. Я вельмі ўважліва стаўлюся да крытыкі. Мяне лёгка зачапіць, пакрыўдзіць… Я не хаваю, што я какетка, і мне падабаецца ёю быць. Можа, камусьці гэта падаецца глупствам, нечым непрыстойным, аднак гэта я.

Шматлікія жанчыны пакутуюць ад таго, што ня могуць выразіць сябе. Калі па вуліцы крочыць жанчына, я бачу, колькі высілкаў яна ўклала ў сябе. Яна дагледжаная, нафарбаваная, у яе яркая прычоска… Яна выражае сябе ў жыцьці. У мяне ж ёсьць дадатковыя сродкі самавыяўленьня: радыё, тэлебачаньне.

**Прыват**

**"CD":** ***Ці можна нахабна пацікавіцца Вашым асабістым жыцьцём у цяперашні момант?***

**Т.С.:** Я ня вельмі люблю распавядаць свае асабістыя гісторыі.

**"CD":** ***З чаго складаецца дзень зоркі Тацяны Сулімавай?***

**Т.С.:** Я люблю пачынаць дзень вельмі сонечна. Першае, што я раблю, - сьнедаю. Люблю такія сьнеданкі, каб было шмат садавіны, мюсьлі, ёгурты - усё, што зараджае чалавека энэргіяй. Абавязкова - музыка, тэлевізар. Я ўключаю ўсё дома на поўную магутнасьць, і ў жыцьцё прыходзіць дынаміка. Цяпер, калі я вяду "Добрай раніцы, Беларусь", я ўстаю а чацьвертай гадзіне раніцы. Тут ужо гучна музыку не паслухаеш. На тэлебачаньні я праводжу першую палову дня, пасьля ўдзень сплю, а ўвечары іду куды-небудзь зь сябрамі. На выходных мы езьдзім катацца на конях у Ратамку, на водных лыжах - на Пціч. Люблю падарожнічаць. Люблю хадзіць на дыскатэкі…

**"CD":** ***З кім з зорак айчыннага капылу Вы маеце добрыя стасункі?***

**Т.С.:** Сябрую з Ларысай Грыбалёвай, з генпрадусарам БТ Ягорам Хрусталёвым. У нас ёсьць вельмі добрая традыцыя: мы сустракаем сэзоны. Кожны раз, калі апошні дзень аднае пары году зьмяняецца першым днём іншае пары, мы адкаркоўваем шампанскае і з крыкамі "Ўра!" адзначаем гэтую падзею.

**"CD":** ***Чаго б Вы хацелі дамагчыся ў жыцьці? Ёсьць якая-небудзь самая галоўная мэта?***

**Т.С.:** Я наагул не займаюся плянаваньнем. Тыя мэты, што я ставіла ў інстытуце, зусім не адпавядаюць таму, што ў мяне ёсьць. Я не магу сказаць, што тое, што я маю цяпер, горш за тое, пра што я марыла. Я ня буду загадваць, але дакладна ўсё будзе лепей, чым я магу сабе ўявіць.

*Гутарыла Стася Куніцкая*





© Artem Glibchuk

# КАЛІ ТЫ НЕ АДКАСІЎ…



© Vladimir Astrovski

*Мноства маладых адмыслоўцаў, скончыўшы навучаньне ў ВНУ, імкнецца, што называецца, "адкасіць" ад вайсковай службы. Але ж заўсёды знойдзецца пэўны кантынгент выпускнікоў ВНУ, якія не супраціўляцца прызыву: лянота, бачаньне далейшае кар'еры, уцёкі ад рэчаіснасьці й г. д. Паводле заканадаўства вайскоўцы тэрміновае службы з вышэйшай адукацыяй мусяць служыць адзін год. У той час як усе іншыя "цягнуць лямку" паўтара году.*

**Пачатковая мілітарызацыя**

Пра тое, што вы "гадавік" ("годичник", "гадючник"), у роце ўсе будуць ведаць ужо праз колькі дзён па вашым прыбыцьці: афіцэры й сэржанты - з разгляду "личных дел", а саслужыўцы - зь беспасярэдняга паспалітаваньня. Да прысягі маладое папаўненьне зазвычай бавіцца ў т.зв. карантыне, засвойваючы заразом курс маладога ваякі (КМВ). Бальшыня кантактаў тым часам адбываецца між прадстаўнікамі аднаго прызыву (для зручнасьці прызывы нумаруюць, напр.: I-2000, II-2000, I-2001 і г. д.). І ў гэтай масе, дзе кожны трэці, як выявіцца, трактарыст, вы будзеце выглядаць досыць эфэктна. Пагатоў, калі маеце добра падвешаны язык. А месяц да прысягі, калі ня знойдзецца кручаных адмарозкаў, станецца часам канкрэтнае павагі да вас з боку супрызыўнікоў. Ніхто ня дасьць вам мянушкі паводле вонкавай прыкметы (Пузаты, Рыла, Нос), але толькі паводле вашае прафэсіі (Вучыцель, Дохтар, Юрыст). Зайздрасьць з-за таго, што вы служыце толькі год, будзе пераважна белай.

**Тлумачэньне "па панятках"**

Пасьля прысягі навабранцы глыбака ўцягваюцца ў сыстэму нестатутных дачыненьняў. А паколькі нефармальная гіерархія вызначаецца пераважна тэрмінам, які адслужыў салдат, то "гадавікі" выбіваюцца з сыстэмы. Падзел жа па тэрмінах службы можа выглядаць (у розных вайсковых частках магчымыя варыянты) так: навабранец - "запах", пасьля аднаго месяцу службы - "дух", пасьля шасьці - "карась" альбо "гусь", пасьля васьмі - "чэрап" альбо "слон", па дванаццаці - "дзед", па шаснаццаці - "дэмбэль". Вось у такі зьвярынец трапляе "гадавік", які звальняецца ў запас той парою, калі ягоныя супрызыўнікі толькі-толькі робяцца "дзядамі". Ува ўмовах, калі побач суіснуюць прадстаўнікі трох прызываў, для "гадавіка" шмат што залежыць ад калектыву й банальнага шанцаваньня. "Дзяды" й "чарапы" з аднолькавым посьпехам вам могуць натрапіцца як адмарожаныя, так і нармалёвыя. Зноў жа рознымі станунца пэрспэктывы вашай адправы на сэржанцкае шкаленьне. Залежыць гэта найперш ад штатных патрэбаў гарнізону. Але я б вам параіў у кожным разе настойліва патрабаваць ад камандзераў, каб вас унесьлі ў адпаведныя сьпісы.

**Пазастатутны ALARM**

Актыўны супраціў гвалту й зьдзекам, якія, безумоўна, не абмінуць і вас, чыніць варта адно тады, калі маеце стоадсоткавую ўпэўненасьць у сваёй фізычнай і псыхалягічнай моцы. Хочацца папярэдзіць, што процістаяць давядзецца ня толькі "дзядам" і "чарапам", але й супрызыўнікам, а ў некаторых разох - і таварышам камандзерам. Не зважаючы на ўсю "антыдзедаўшчынскую" рыторыку, шмат хто з прапаршчыкаў і афіцэраў ёсьць негалосным апалягетам дзедаўшчыны.

Каб унікнуць цэлага шэрагу праблемаў, ужо на першых часох вам як "гадавіку" неабходна навязваць шчыльныя кантакты з "чарапамі": ненавязьлівыя гутаркі "за жыцьцё", выказваньне зацікаўленасьці сваім вайсковым лёсам, пачастункі (цыгарэты, цукеркі й г. д.) між іншым, але ня ў выглядзе хабару ці даніны… Гэта схіліць іх на ваш бок, і карныя захады ў вашым дачыненьні будуць мець фармальны характар. Але ні ў якім разе не спрабуйце йсьці зь нейкімі прапановамі да "дзядоў". Цяпер усё часьцей стаецца завядзёнкаю, што сярэдні прызыў адказвае перад старэйшым за нефармальнае шкаленьне, выхаваньне прызыву малодшага. Акурат таму нестатутныя правілы абмяжоўваюць камунікаваньне "духаў" зь "дзядамі". За парушэньне гэткага табу бітымі будуць "чарапы". Ваш лёс, падкрэсьліваю, у сыстэме нестатутнае гіерархіі залежыць менавіта ад апошніх, бо вам зь імі разам звальняцца. І пра гэтую акалічнасьць вам нагадаюць неаднойчы.

**Інтэнсіўная сацыялізацыя**

Пры розных раскладах "гадавік" можа быць пераведзены ў статус "чэрапа" пасьля 3,5-4 месяцаў службы (магчыма, раней ці пазьней). Справа паўнавартаснасьці гэтага статусу ўскладняецца патрэбаю ангажаваньня вас у "выхаваўчыя" працэдуры. Гэта лёгка атрымаецца, калі адкінеце сантымэнты й настальгію па часах КМВ ды будзеце мець за сабою рэальныя "падвязкі" ў сярэднім прызыве. У кожным разе супрызыўнікі ў асноўным пачнуць вас ненавідзець, асабліва да прыходу чарговага маладняку. Але не перажывайце, бо ўсё адно між





© У. Урзоў

сваіх нехта дый застанецца вам прыяцелем. Калі ўсё будзе добра, то на восьмым месяцы вайсковага жыцьця атрымаеце статус "дзеда", а там - законны адпачынак на 21 дзень (сэржантам - 26, большыя адпачынкі - рэдкі вынятак, зьвязаны з "блатам"), і благаслаўлёны дэмбэль не за гарамі.

**"Канай адсюль…"**

Сам я не магу пахваліцца фартунным вайсковым лёсам. Зьяўленьне першых маіх матэрыялаў з унутраных войскаў у "Нашай Ніве" (зіма - вясна 2000 г.) зацікавіла ня толькі чытачоў, але й спэцслужбы. Мяне раптова зьнялі з вайсковага нараду: ці мала што я мог яшчэ напісаць пра караульнае жыцьцё ахоўнікаў калёніі строгага рэжыму. Неўзабаве ж у батальён зьявіўся для "даверыцельнай бяседы" падпалкоўнік у цывільным. Ён задаваў розныя пытаньні, імкнуўся зьвесьці гутарку на праблему маіх публікацыяў ды грамадзкай дзейнасьці на цывільлі. Уяўляеце маю далейшую службу? Недавер з боку камандаваньня батальёну, перапалоханага ўмяшаньнем іншага ведамства. Неаднойчы даводзілася чуць ад камбата дзіўныя пагрозы: "Ты в курсе, что окажешься скоро в более другом месте?" альбо зьнянацку: "Вы до х… уже стали п…ть, товарищ солдат. Это я вам честно говорю". Апошнім ён даваў зразумець, нібыта мае "вушы", якія пераказваюць яму ўсе мае выслоўі…

Ня ведаю, якія падзьмулі вятры, але пасьля майго вяртаньня з адпачынку я стаў займацца папяроваю працай у кабінэце намесьніка камбата. Магчыма, мяне вырашылі папросту трымаць у полі зроку. НКБ стварае ілюзіі важнасьці маёй працы, што заключалася ў складаньні розных плянаў маральна-псыхалягічнага забесьпячэньня батальёну. Цяпер я думаю, што гэта быў блеф. Як можна было даручыць гэткія распрацоўкі чалавеку, якому псыхоляг у форме вынес вырак: "Схільны да суіцыдаў"? Да самага дэмбэлю я так і ня здолеў зразумець, што за гульня тут вядзецца. Выйшаў жа я зь яе яўна не пераможцам.

Касіць ці не касіць - вось у чым пытаньне. Вырашаць яго давядзецца асабіста вам. Калі б была магчымасьць вярнуць час, я б усё адно пайшоў у войска. Але шмат што рабіў бы йначай…

Сяргей Балахонаў



# PEARL HARBOR: кіно і рэальнасьць

**Антон Крук**




*Заходняя цывілізацыя, якая прагне матэрыялізаваць сымбалі сваёй унікальнасьці, магутнасьці й непахіснасьці, у верасьні 2001-га, як і 60 год таму, перажыла шок ад іх зьнішчэньня. Калі на ролю сымбалю XXI ст. прэтэндаваў Сусьветны гандлёвы цэнтар, то ў сярэдзіне мінулага стагодзьдзя ім быў Пэрл Харбар. Пік касавага посьпеху фільму Pearl Harbor, па іроніі лёсу, прыпаў на пачатак верасьня. Верасьнёўскую трагедыю 2001 году мы назіралі па TV. А што зь сябе ўяўляюць сьнежаньская трагедыя 1941 году і яе экранізацыя 2001 году?*

Японская атака на Пэрл Харбар была для амэрыканцаў тым, чым для савецкіх беларусаў стаўся напад фашыстаў 22 чэрвеня 1941 году на Берасьцейскую цытадэль,- шокам, які аб'яднаў усіх людзей у барацьбе з ворагам. Няма нічога дзіўнага, што да 60-годзьдзя японскае "здрады" студыя *Disney* стварыла пра гэта фільм коштам у 145 мільёнаў даляраў, а пасьля выдаткавала яшчэ 5 мільёнаў зялёных на яго ўрачыстую прэм'еру, якая адбылася на атамным аэрадроме *US Stennis*. На яе былі запрошаныя яшчэ жывыя вэтэраны тых падзеяў, але большасьць зь іх запрашэньняў не прыняла. "Што новага гэты фільм распавядзе мне пра Пэрл Харбар?"- задае рытарычнае пытаньне Юліюс Фінэрн, у 1941-м марак зьнішчальніка *Monaghan*.

**Тое, што нас узрушвае...**

"Пэрл Харбар" гэта да непрыстойнасьці тыповая кічаватая гісторыя любоўнага трохкутніку, моцна прыпраўленая гісторыка-патрыятычным соўсам. Два маладыя і па-амэрыканску прыгожыя пілёты закаханыя ў такую ж самую дзяўчыну - прыгожую, аднак занадта напудраную і загрымаваную мэдсястру Эвэлін (Кэйт Бэкінсал). Абраньнік Эвэлін - Рэйф (Бэн Афлэк) зьбіраецца ў Эўропу, каб у якасьці добраахвотніка ўзяць удзел у бітве за Англію. Там ён і гіне. Паведамленьне пра сьмерць каханага Эвэлін прыносіць другі прэтэндэнт на ейнае сэрца і блізкі сябар Рэйфа - Дэні (Джош Хартнэт). Агаломшаная сьмерцю абраньніка мэдсястра вырашае, што найлепшы сродак вылечыцца ад працяглае дэпрэсіі- пераспаць зь ягоным сябрам.

Прыстойная дзяўчына ня ведае, што насамрэч Рэйф выжыў... Далей калізія разгортваецца *a la Hollywood*, а яе фонам робіцца бамбаваньне японцамі вайсковай базы Пэрл Харбар.

**...называецца касай**

Напярэдадні прэм'еры сцэнарысты запэўнівалі кінакрытыкаў, што фільм плянаваўся выключна як "патрыятычная агітка", дзеля большай касы аздобленая *love story*. У выніку фільм, як "Хэпі міл" зь менскага "Макдональдзу": усё нібыта прыгожа, апэтытна, але пры дэгустацыі разумееш, што апрача гіпэррэклямы, каструбаватай цацкі-"трансформэру" й пякоткі ў страўніку сур'ёзнаму чалавеку і ўзгадаць няма чаго... Але ж большасьць на гэта купляецца!

Дый як не купіцца? Напрыклад, на ігру Джона Войта, які выконваў ролю прэзыдэнта Рузвэльта. Актор так глыбока ўвасобіўся ў сваю ролю, што аж амэрыканскія крытыкі фільму зьдзіўляюцца, як гэта над яго галавой не зазьзяў німб сьвятога. Кіношны прэзыдэнт (у гістарычнай рэальнасьці - цяжка спаралізаваны калека) нават змог устаць зь інваліднай каляскі, каб заклікаць сваіх генэралаў да барацьбы. Альбо эротыка-рамантычныя кадры каханьня Дэні і Эвэлін у ветразях разьвешаных у ангары парашутаў! Гэта вам ня мележаўскія Яўхім Корч з Хадоськай у пуні. Каб стужка патрапіла ў катэгорыю "сямейны фільм", пурытанскі Галівуд мусіў адмовіцца ад раздражняльных сцэнаў: напрыклад, ад паказу адкрытых ранаў забітых падчас бамбаваньня амэрыканскіх маракоў.

Яшчэ цікавейшай ёсьць японская вэрсія фільму, ачышчаная ад зьняважлівых для японцаў крыкаў і выказваньняў (якіх, дарэчы, і ў амэрыканскай вэрсіі ня так і шмат). Сцэнарыстам давялося выстаўляць на публіку ня проста агрэсараў-камікадзэ, што перад боем ладзяць нейкія незразумелыя для Захаду рэлігійныя шабашы з абавязковымі 50 г сакэ. Японцы тут паказаныя як людзі, распачаць вайну якіх змусілі дзеяньні самой Амэрыкі! Так, адмірал Ямамота, які быў крэатарам нападу на Пэрл Харбар, у фільме ня толькі вайсковы геній, але й прадказальнік. Пасьля праведзенай атакі ён занепакоены: "Мабыць, мы абудзілі волата, які спаў..." Хваленая паліткарэктнасьць? Мо і так, але збольшага звычайная амэрыканская бугальтэрыя. Ці прынёс бы японскі пракат прадусарам *Pearl Harbor* плянаваныя 20% даходу (так было, у прыватнасьці, з "Тытанікам"), калі б просты такіец пазнаў у экранным маньяку-забойцы свайго загінуўшага дзеда?..




**Болей адрэналіну!**

Фільм доўжыцца аж 3 гадзіны. Мыльная опэра з Эвэлін, Рэйфам і Дэні - гэта толькі 90 хвілінаў спэктаклю. Рэшту складае чысты *action*, які падвышае ровень адрэналіну ў крыві ашаламляльнымі батальнымі сцэнамі. Па рэалістычнасьці яны пакідаюць ззаду "Шарагоўца Райна" й "Дзень Незалежнасьці".

На працягу першых дзён пракату ў кінатэатрах ЗША фільм сабраў 75,1 мільёну даляраў, што значна болей, чым за падобны пэрыяд зарабіў "Тытанік" (28,6 млн.). Адзначым, што да стварэньня кінаэпасу *Pearl Harbor* спрычыніліся сапраўды культавыя асобы. Прадусарам зьяўляецца Джэры Брукхаймэр, знаны яшчэ па працы над "Армагедонам" "майстар дэструкцыі", што аж млее ад наварочаных спэцэфэктаў. Рэжысэрам фільму стаў Міхаэль Бай, які ня першы год супрацоўнічае са студыяй *Touchstone* - часткай імпэрыі Ўолта Дыснэя.



**З успамінаў пра рэальнасьць...**

"Памятаю, было 8 гадзінаў раніцы, - згадвае 82-гадовы Джуліюс Фінэрн. - Я апрануў сьвяточны мундзір, каб ісьці на імшу. Купіў яго за грошы, што зэканоміў за службу, якая прыносіла $36 штомесяц. Але памаліцца так і не пасьпеў. Спачатку на караблі была абвешчаная гатоўнасьць да выхаду ў мора, і ў той жа час пачалася атака... Сьвяточны мундзір я зьняў толькі праз тры дні. Ён быў прыдатны хіба што на анучы".

Нядзельная раніца 7 сьнежня 1941 году абяцала цудоўны дзень на Гаваях. На блакітным небе было даволі шмат хмараў, але сонца прыпякала моцна. База амэрыканскага Ціхаакіянскага флёту ў Пэрл Харбары паволі абуджалася. У дамах, што ляжалі на ўзгорках, якія акалялі порт, людзі ставілі ваду для ранішняй кавы, праз адчыненыя вокны даносіўся моцны водар гавайскіх кветак. У порце маракі начной вахты скончылі службу, а тыя, хто бурна правёў суботні вечар у шматлікіх забягалаўках і барах Ганалулу, прадзіралі чырвоныя зь перапітку вочы.



Напярэдадні трагедыі ў Амэрыцы панаваў нічым не азмрочаны спакой. Эўропа, дзе ўжо 2 гады ішла вялікая вайна, была дзесь на іншым канцы сьвету. Магчымы агрэсар- Японія- таксама далёка. Усе былі перакананыя, што Пэрл Харбар знаходзіцца ў бясьпецы. Хоць амэрыканская выведка й расшыфравала перамовы японскіх вайскоўцаў, выслаўшы ў апошнюю хвіліну папярэджаньне камандзеру Ціхаакіянскага флёту адміралу Кімэлу, аднак па-за нечаей увагай застаўся грыф "тэрмінова". Дэпэша загразла ў паперах на чыімсьці стале.

4:00 - зьнішчальнік *Ward*, што пільнаваў уваход у порт Пэрл Харбар, зьнішчыў неапазнаную субмарыну, аднак інфармацыя пра гэты інцыдэнт таксама не дайшла да адмірала.

6:00 - амэрыканскія радары паказалі набліжэньне групы летакоў, якая была прынятая за ўласную эскадрылью.

7:50 - першыя японскія бомбы ўпалі на амэрыканскія аэрадромы, распачаўшы двухгадзінны спэктакаль, які агаломшыў усю Амэрыку.

**Тэхналёгія нападу: чым узялі японцы?**

***Нечаканасьцю***

Японская эскадрылья нанесла самы сакрушальны ўдар, калі ўвесь баявы склад базы Пэрл Харбар спаў. Можна толькі ўявіць разгубленасьць жаўнераў, якія былі ўзьнятыя сыгналам *Alarm* і замест звыклых вучэньняў трапілі ў самае пекла. "Японскі лятак пікіраваў так нізка, што я бачыў твар пілёта. Ён сьмяяўся, паказваючы мне свае бліскучыя зубы. Здавалася, японец казаў мне: "We fu...k you!" Да канца жыцьця не забуду гэтай д'ябальскай усьмешкі", - згадвае сёньня 82-гадовы Фін Аскідсан.

*Добрай падрыхтаванасьцю*

Як і на папярэдніх вучэньнях, японскія бомбы й тарпэды былі скіраваныя перш за ўсё на нерухомыя мішэні - караблі, што стаялі на якарах. Бомбы, зробленыя з 800-кіляграмовых артылерыйскіх снарадаў, прабівалі палубы і зьнішчалі караблі. Панцырнік *Arizona,* якому бомба трапіла проста ў склад боепрыпасаў, узьляцеў у паветра, пахаваўшы 1100 маракоў. Аж да сёньня сярод амэрыканскіх маракоў ходзіць пагалоска, што карабель абрынуўся ў пекла - ад яго застаўся толькі выратавальны круг, які быў знойдзены за некалькі соцень мэтраў ад месца выбуху.

*Запазычанымі тэхналёгіямі*

Чаму тарпэды (пра якія амэрыканцы думалі, што іх нельга скінуць з летакоў у неглыбокія воды Пэрл Харбару- загразнуць на дне) паразілі ўсе амэ-рыканскія караблі? Бо японцы, як заўжды, запазычылі, удасканалілі і выкарысталі дзеля сваёй перамогі чужыя тэхналёгіі. Папярэдне азнаёміўшыся з досьведам брытанцаў, інжынэры дадалі да тарпэдаў драўляныя паплаўкі, дзякуючы якім тыя не пагружаліся глыбока. У выніку за некалькі хвілінаў было зьнішчана звыш 200 амэрыканскіх летакоў, быў затоплены 21 карабель, у тым ліку 8 панцырнікаў, былі забітыя 2403 і параненыя 1178 амэрыканскіх жаўнераў. Страты з боку Японіі: 29 летакоў, 5 невялікіх падводных лодак, 64 лётчыкі і маракі.

**Гісторыя паўтараецца?**

Пэрл Харбар шакаваў ЗША. Не губляючы часу на роздумы, прэзыдэнт Рузвэльт назваў дату 7.12.1941 "днём ганьбы", аб'явіў Японіі вайну і наступным днём атрымаў ад Кангрэсу тое, чаго марна дамагаўся месяц таму, - мільярдныя крэдыты на ўзбра-еньне. Прызыўныя пункты амэры-канскай арміі і флёту былі ня ў стане зарэгістраваць тысячы добраахвот-нікаў, якія пакляліся адпомсьціць японцам за Пэрл Харбар.

Спрэчкі, хто сапраўды вінаваты ў трагедыі, вядуцца да сёньня. Існуе тэорыя, што Рузвэльт ведаў пра намер японцаў, але нічога не зрабіў, бо жадаў уцягнуць ЗША ў вайну. Так ці йнакш, але гісторык Гордан Прэнг мае рацыю: віны хопіць на ўсіх.

# Прывітаньне з Тайваню!

**Вольга Цяцёркіна**

*Усход заўсёды прыцягваў эўрапейцаў. У вялікім доме нават модна было мець "кітайскі пакой", які быў застаўлены рэчамі, зброяй, мэбляй, прывезенымі з Усходу. Мода на Ўсход зь цягам часу толькі павялічваецца…*

### Геаграфія
Тайвань знаходзіцца на ўзважна невялікай высьпе памерам зь Берасьцейскую вобласьць. А насельніцтва на гэтай тэрыторыі - амаль 21 мільён (дзьве зь лішкам Беларусі). Ровень жыцьця лічыцца даволі высокім - як, прыкладам, у Гішпаніі ці Партугаліі. У асноўным краіна мае горны рэльеф.

### Гісторыя
З часоў дынастыі Чын ( XVII-XVIII стагодзьдзі) Тайвань быў часткай Кітаю. Напрыканцы XIX стагодзьдзя ён перайшоў да Японіі і быў да 1945 году ейнаю калёніяй. Пасьля выспа зноў чатыры гады належала Кітаю. А напрыканцы кітайскай грамадзянскай вайны паміж войскамі нацыянальнай і камуністычнай партыяў прыхільнікі нацыянальнае партыі прайгралі ды разам зь сем'ямі й блізкімі зьбеглі на Тайвань. Гэтыя людзі так і не прынялі камуністычных ідэяў...

### Дзяржстатус
Афіцыйна Тайвань дагэтуль лічыцца часткай Кітаю, а неафіцыйна - зьяўляецца незалежнаю краінай. Асноўная нацыя - кітайцы. Да XVII стагодзьдзя на тэрыторыі высьпы жылі абарыгены, больш падобныя вонкава й культурна да філіпінцаў. Іхная скура трохі цямнейшая, у іх больш круглыя і цёмныя вочы, чымся ў кітайцаў. Калі кітайцы перасяліліся на Тайвань, этнічныя тайванцы сышлі ў горы. Іх засталося няшмат, і яны так і завуцца ў перакладзе з кітайскае - "горныя людзі". Яны імкнуцца не перамешвацца з кітайцамі і застаюцца амаль этнічна чыстым народам.

### Тайвань - глёбус



Зараз дачыненьні Кітаю і Тайваню крыху палепшыліся.

Палітычныя стасункі дастаткова напружаныя, таму што Тайвань стаў незалежным і эканамічна разьвітым краем. Кітайцы любяць падкрэсьліваць, што Тайвань - частка краіны. Тайванцы з гэтым ня згодныя і прэтэндуюць на сувэрэнітэт. Эканамічныя стасункі, у адрозьненьне ад палітычных, вельмі шчыльныя: Тайвань інвэстуе шмат сродкаў у кітайскую эканоміку. На матэрыку зараз вельмі многа тайваньскіх заводаў, фабрык, тут працуе шмат тайванцаў, багата хто зь іх мае свой бізнэс: адчыняе рэстарацыі, арганізоўвае вытворчасьць…

Тайвань арыентуецца на Амэрыку. Менавіта яна падтрымлівала Тайвань у супрацьстаяньні з Кітаем, калі той атакаваў выспу ў 50-60-х гадах XX стагодзьдзя. Некалькі гадоў таму Тайвань вельмі моцна пачаў разьвіваць сфэру высокіх тэхналёгіяў з дапамогаю Амэрыкі, якая набывала тайваньскую прадукцыю. Дзеля цесных сувязяў з Новым Сьветам вельмі пашыранае вывучэньне ангельскай мовы.

### Сям'я і шлюб
Кітайцы жывуць паводле шматвекавых традыцыяў. І шмат якія зь іх эўрапейцам даволі цяжка зразумець. Напрыклад, калі мужчыну ўжо споўнілася 30 год, а ён яшчэ не жанаты - ён *павінен* знайсьці сабе жонку. Хоча ён гэтага ці ня надта, кахае ці не - ён вымушаны, бо працягненьне роду ёсьць сьвятоўным абавязкам.

Жанчына ад 25 да 28 год таксама *павінна* выйсьці замуж. Праз год пасьля вясельля яна мусіць нарадзіць дзіця. У іншым выпадку сваякі й знаёмцы пачынаюць абмяркоўваць ейную нястаннасьць. Лічыцца, што калі маладая жанчына ці малады мужчына не пабраліся шлюбам ці ня маюць дзяцей - у іх ёсьць праблемы. Сучаснае стаўленьне да сям'і як да ўласнага выбару кітайцы не прымаюць.

Але, зь іншага боку, традыцыяй ёсьць і тое, што сямейнікі, найчасьцей мужчыны, маюць кагосьці на старане. Трэба мець і жонку, і каханку! І грамадзтвам гэта ўспрымаецца нармальна. Такая ўжо моц традыцыі...

### Традыцыі
Самыя папулярныя прафэсіі ў Тайвані - мэдык, юрыст і кампутарнік. Гэтыя людзі маюць найбольшы заробак - і тут выспа ня адрозьніваецца ад усяго цывілізаванага сьвету. Але ёсьць і адрозьненьні.

Да 80-х гадоў, калі ў сям'і было сьвята ці вясельле, мужчыны і жанчыны сьвяткавалі асобна. Цяпер сытуацыя пачала мяняцца, асабліва ў маладзевым асяродку. Але шмат у чым традыцыі застаюцца непарушнымі. Прыкладам, дзеці ў любых варунках павінныя клапаціцца пра бацькоў - гэта ўплыў канфуцыянства. У працоўных стасунках заўсёды ёсьць начальнік, і ён заўсёды мае рацыю. У Эўропе ці ў Амэрыцы ты мусіш праяўляць ініцыятыву; калі ў цябе ёсьць свае ідэі, ты іх выказваеш. У Тайвані ты павінен адно слухаць і выконваць. Лічыцца, што толькі тады ты добры падначалены.

### Культ
Культам на Ўсходзе ёсьць гарбата. Заварваньне гарбаты - гэта цэлая цырымонія. Колькі сэкундаў трымаць, як разьліваць, як піць - усё строга рэглямэнтавана. Кітайцы п'юць зялёную гарбату, якая апошнім часам набыла папулярнасьць ва ўсім сьвеце. Яны ведаюць, як рабіць сапраўдную гарбату. Вельмі распаўсюджаныя адмысловыя чайныя рэстарацыі (аналяг заходніх піўных бараў), куды людзі прыходзяць адмыслова дзеля гарбаты. Тое, што ўжываюць у Эўропе й Амэрыцы, - гэта танная і несапраўдная гарбата, упэўненыя кітайцы. Сапраўдная зялёная гарбата даволі дарагая. Прычым для засушкі выкарыстоўваюцца толькі тыя тры лісткі, што растуць наверсе гарбатніка. Астатняе зьбіраюць у пакункі і дасылаюць у Эўропу.

### Адукацыя
Адна з адметнасьцяў кітайскае культуры - важнасьць атрыманьня добрай адукацыі, таму тайваньская моладзь імкнецца да ведаў. У навучаньні акцэнт робіцца на запамінаньне, а не на мысьленьне. Каб паступіць у ВНУ, абітурыент мусіць вывучыць велізарны аб'ём матэрыялу. Уся тайваньская моладзь напрыканцы навучаньня ў школе піша вялікі тэст. Калі набраў 90-100 балаў са ста, маеш шанец паступіць у найлепшыя ВНУ. Набраў менш - паступіш не на самыя прэстыжныя спэцыяльнасьці. Моладзь цяпер вельмі добра зразумела, што адукацыя ёсьць стартам для добрай працы, а значыць, для дастойнага існаваньня. У размовах адчуваецца, наколькі маладыя людзі хочуць прыстойна зарабляць.

### Мова
Кітайская мова крыху розьніцца ад тайваньскага варыянту. У Кітаі карыстаюцца простай формай ерогліфу. У пачатку XX стагодзьдзя адбылася рэформа кітайскай мовы ў бок палягчэньня пісьмовасьці. Тайвань быў у той час японскай калёніяй і захаваў стары варыянт. І цяпер кітайцы карыстаюцца больш простым напісаньнем, чымся тайванцы. У размове, безумоўна, яны зразумеюць адно аднога, але маладыя кітайцы, якія ня ведаюць старажытнакітайскае мовы, не прачытаюць тайваньскага тэксту, бо існуе шмат складаных ерогліфаў, значэньня якіх яны папросту ня ведаюць.

### PC vs. 癸
Для эўрапейца вельмі цікавым застаецца пытаньне, як жа прыстасаваны кампутар да набору ерогліфаў. Але ўсходні чалавек вырашыў і гэтую праблему. У любым кітайскім ерогліфе ёсьць корань - маленькі ерогліф у ерогліфе. Такіх



каранёў налічваецца каля 150-ці, а самых ужывальных, якія зьмешчаныя ў кампутары, - яшчэ менш. Кітаец уводзіць корань і дадае рыскі. Другі мэтад - трансьлітарацыя піньйін, калі кітайскія словы пішуцца лацінкаю. Набіраеш гучаньне слова, а кампутар выдае ерогліф. Зручна!

### Party
Тайваньская моладзь, як і ўсялякая іншая, любіць кампаніі. Вельмі папулярны занятак - караоке. Ёсьць адмысловыя караоке-бары. Можна арэндаваць на вечар пакой з канапамі, з тэлевізарам. Звычайна замаўляюць лёгкую ежу, напоі ці японскае піва (лічыцца найлепшым!). Папулярныя таксама паходы ў кіно, шопінг, вандроўкі ў горы. Адпачываць любяць у асноўным у краінах Паўднёва-Ўсходняй Азіі: у Малайзіі, Сынгапуры, на Філіпінах… Бо пражываньне і харчаваньне там - таньнейшае. Больш заможныя кітайцы езьдзяць у Эўропу.



Да эўрапейцаў і кітайцы, і тайванцы ставяцца прыязна, зь цікаўнасьцю: шмат хто зь іх ніколі ня меў зносінаў зь "беласкурымі". Усходнія людзі вядомыя сваёй гасьціннасьцю, часта запрашаюць эўрапейцаў, да прыкладу, на вячэру ў рэстарацыю. Зь іншага боку, існуюць і даволі экзатычныя ўяўленьні: напрыклад, лічыцца, што заходнія жанчыны не адрозьніваюцца "цяжкімі" паводзінамі… Але пры гэтым эўрапейская жанчына ёсьць эталёнам прыгажосьці: блакітныя вочы, сьветлая скура. Таму тайванкі заўсёды ходзяць з парасонамі, каб не было загару, і адкрыта зайздросьцяць сьвятлейшай скуры эўрапеек.

У сталіцы Тайваню - Тайпэі - багата амэрыканцаў і эўрапейцаў: шмат хто зь іх мае тут свой бізнэс.Тайваньскі фэномэн (чарговы): амэрыканцы (старыя і тоўстыя) часта шукаюць сабе ў Тайвані жонак (маладзенькіх і прыгожых). І, трэба сказаць, знаходзяць! Шмат таксама студэнтаў-замежнікаў, якія вывучаюць кітайскую мову. А студэнт, як вядома, таксама ня супраць з кім-небудзь ажаніцца.

### Дзе вучыцца на кітайца
У Беларусі кітайскую мову вывучаюць на факультэце міжнародных стасункаў у БДУ і ў Лінгвістычным унівэрсытэце. Ёсьць у нас і кітайцы. У асноўным гэта студэнты, якія не паступілі ва ўнівэрсытэт на радзіме. Некаторыя бацькі маюць магчымасьць адправіць дзяцей у Беларусь за адукацыяй. Вучыцца тут, у параўнаньні з Амэрыкай і Эўропай, ня вельмі дорага, і ўзровень выкладаньня, здаецца, іх задавальняе.

*Матэрыял падрыхтаваны з дапамогай Кацярыны Воранчук, выпускніцы Оксфардзкага ўнівэрсытэту па спэцыяльнасьці "кітаязнаўства"*









Дар'я  Сітнікава

# Піва, "морды" і АМАП, або Варты ўікенд у вартай кампаніі



*А ну хуценька згадвайце, што вы рабілі 15 і 16 верасьня гэтага году? Адчувае маё сэрца - сядзелі ў сябе на лецішчы і капалі бульбу. І толькі з тае прычыны, што наш шаноўны абрана-пераабраны прэзыдэнт шырокім росчыркам пяра дазволіў студэнтам задарма катацца па краіне? Ганьба й сорам вам і вашаму студбілету! Гэткую "праязную" халяву можна (і трэба) было выкарыстаць больш вартым чынам.*

У тыя верасьнёўскія дні бравыя ваякі ў жалезных кальчугах (вось бы такую працоўную сілу - да вас на "фазэнду"!) і дамы іх сэрцаў сабраліся на чарговы фэст. Гэтым разам пад пільным кіраўніцтвам вялікага князя Фёдара Міхеева ("Княжы Гуф", Менск) было "акупаванае" старажытнае Заслаўе.

Пры максымальным жаданьні і мінімальных высілках у народанасельніцтва зьявілася рэальная магчымасьць пакрыцца пылам шасьцёх стагодзьдзяў. "Працэдура" атрымала задужа трагічны назоў - "Заслаўскі набат". А ўсё дзеля таго, што пачалася рэканструкцыя бітвы за заслаўскі замак, падзея № 1 фэстывалю, зь періазвону званоў (пардон за таўталёгію). У 1434 годзе падчас грамадзянскай вайны ў Вялікім княстве Літоўскім паміж Жыгімонтам і Свідрыгайлам войскамі апошняга былі аблажаныя, а затым і ўзятыя муры заслаўскага абарончага збудаваньня. Ролю апошняга ў дадзеных умовах выконвалі некалькі кубамэтраў нячэсанага дрэва. Відавочна, "акцыя" мелася праходзіць не ад балды, а была гістарычна абгрунтаваная. Пэўна, таму ўдзельнікі сабраліся на папярэднюю рэпэтыцыю. Вялікі князь Фёдар упарта спрабаваў азнаёміць вяроў з падрабязным сцэнарам і даць шэраг ЦУ. У рэшце рэшт для завабаваньня ўвагі аўдыторыі давялося скарыстацца старым праверанім спосабам - некалькі папулярных выразаў далі магчымасьць рыцарам і "халопам" атрымаць поўнае ўяўленьне пра бітву.

Дакладна ў праграмны час на гарадзішчы на паўгадзіны ўсталявалася XV стагодзьдзе. Дарэчы, "Набат" бессаромна парушыў залатое правіла ўсіх мерапрыемстваў: ніколі нічога ў час не пачынаць. Усё адбывалася дакладна па праграме ці нават раней (!). Праўда, пытаньне, што рабіць гледачам у гадзінныя перапынкі паміж фэстаўскімі імпрэзамі, засталося без адказу.

Інсцэнізацыя падзеяў даўно мінулых дзён пачалася зь мірных дзявочых карагодаў і паказушнай сяльгаспрацы сялянаў. Ідылію бессаромна парушылі варожыя сілы, што падышлі літаральна "з-за кута". Як і трэ было чакаць, усчалася заварушка. "Апанэнты" за кароткі час пасьпелі абмяняцца стрэламі з катапультаў і трэбушэта. На галовы захопнікаў лілася "смала" і H2O, сыпалася падпаленая салома і "прафіляктычныя" ўдары сякераў ды мячоў абаронцаў. Чамусьці з тылу загарэўся замак, які агульнымі намогамі ўдалося патушыць. Папярэдні "інструктаж" заклікаў рыцараў ня дужа захапляцца падпальваньнем калгаснай саломы (як-ніяк, наўрад ці пад сьценамі Заслаўя шэсьць стагодзьдзяў таму знаходзілася чырвоная пажарная машына). Спаліць што-небудзь не атрымалася. А вось без ахвяраў, у сэнсе пашкоджаньня асобных частак цела вяроў, на жаль, не абышлося...

Дзеля плюралізму было ўважліва выслуханае меркаваньне маладога (на выгляд) амапаўца. Той "з налёту" адрапартаваў, што ўсё гэта - "дзіцячыя гульні". Давялося правесьці асьветніцкую гутарку, распавесьці, што кальчуга, аказваецца, жалезная і важыць болей за бронекамізэльку, і рыцарскі клюб - ну ніяк ня група падожнага дня, а сур'ёзная арганізацыя, якая займаецца апроч усяго іншага і вывучэньнем мінуўшчыны. Карысьці з такіх размоваў атрымалася - як з казла малака. Ахоўнік парадку ніяк ня мог дацяміць, "навошта ім (рыцарам) гэта патрэбна". А мы адчулі на сабе падазроны позірк, калі без запінкі выдалі гістарычныя падставы мерапрыемства. "Пайшоў бы ў рыцары, каб грошы плацілі", - глыбакадумна заключыў "плямчык".



© Дар'я





© Тацяна Конюх

У камплексе зь бітвай праходзілі канцэрт сярэднявечнай музыкі з удзелам "Артэс Лібэраліс", "Контраданс","Гуда" й інш., а таксама дударскі (першы!) фэст у фэсьце "Заслаўскі Дуднік" (Алесь Журо, усё прагрэсіўнае чалавецтва ганарыцца вашай самааддачасьцю й мужнасьцю!!!).

А пад вечар першага дня неўтаймоўныя рыцары разышліся не на жарт. Замест аднаго бугурту ("сьценка на сьценку") публіка тройчы цешылася такога кшталту відовішчамі.

А потым... "Штаны пертвараюцца... пертвараюцца ... пертвараюцца... ў элегантныя шорты". Не спадзявайцеся, "Брыльянтавая рука" ў праграму не ўваходзіла - стагодзьдзе крыху ня тое. Але прыкладна такія асацыяцыі выклікаў конкурс на лепшае рыцарскае ўзбраеньне.

Пад спробы "мадэляў" прадэманстраваць свае здольнасьці паваруцьшыцца ўдзячныя гледачы слухалі дэталёвыя апісаньні дасьпехаў, "па ўсім відаць", XIV-XVI стагодзьдзяў.

"Апплядысмэнты, апплядысмэнты!" - разаграваў публіку нястомны магістар Ордэну Паўночнага Храму Зьміцер Нясьцюк (ён на гэтым фэсьце ў асноўным дыджэйстваваў). І пад усеагульныя крыкі захапленьня гладзіў па "жабінай мордзе" аднаго зь дзевяцёх удзельнікаў ("жабіна морда" - гэта шлем такі, а вы што падумалі?). Ацэньвала "дэфіле" кампэтэнтнае журы, у якім, самі разумееце, не абышлося бяз мэра Заслаўя.

"Золата" пацягнула на дармовую вандроўку на Грунвальд у наступным годзе. "CD" абавязкова паведаміць, дзе будзе знаходзіцца 14-15 ліпеня 2002 году пераможца наміначыі Зьміцер ЗьніШчала з "Княжага Гуфу". Як шчыра прызнаўся Фёдар Міхееў, арганізатары доўга ламалі галаву, чым узнагародзіць другі і трэці "панцыры": скрыняй піва "Аліварыя" ці кубкам зь фірмовым лягатыпам таго самага бровару. У выніку справядлівасьць часткова ўзяла верх. Піва па рашэньні журы, праўда, давялося падзяліць напалам (шкада толькі, што з-за жалезьзя не ўдалося разгледзець, паміж кім). А ўладальнік "бронзы" Юры Дайнаўскі ("Дайнава", г. Ліда) на піры ва ўсю эксплюатаваў пэрсанальны кубак.

Мясцовыя ўлады таксама зрабілі свой унёсак у арганізацыю мерапрыемства. Гэта зь іх "лёгкай" рукі ўжо а восьмай вечару былі "клапатліва" і ў тэрміновым парадку згорнутыя ўсе кропкі грамадзкага харчаваньня. Дзіўныя рэчы адбываліся і з продажам сьпіртовых напояў любога мацунку. На іх рэалізацыю ў пэўны час і пэўным асобам было накладзенае табу. Сухі закон-с?

На такой аптымістычнай ноце рыцарскі сэзон-2001 можна лічыць завершаным. І са спакойным сэрцам разьвітацца да белых мух (дакладней, да "Белага Замку-2002").

P.S. За разьвіцьцём падзеяў сачыце на рыцарскім сайце



**Нямецкая служба акадэмічных абменаў (ДААД)**




*абвяшчае конкурс для беларускіх навукоўцаў, асобаў, якія маюць вышэйшую адукацыю, аспірантаў і студэнтаў на атрыманьне стыпэндыяў для стажыровкі ва ўнівэрсытэтах Нямеччыны ў 2002/2003 навучальным годзе.*

**У конкурсе могуць браць удзел:**

- Асобы, што маюць вышэйшую адукацыю, і аспіранты, не старэйшыя за 32 гады, якія займаюцца навуковай (а таксама выкладчыцкай) дзейнасьцю ў ВНУ або іншых навуковых установах па ўсіх дысцыплінах, улучаючы музыку, выяўленчае мастацтва, архітэктуру, дызайн, кінамастацтва і мэдыцыну, - стыпэндыя на тэрмін да 10 месяцаў.
- Студэнты 2-4 курсаў, якія вывучаюць германістыку, - стыпэндыя на 1 сэмэстар.
- Студэнты 3 курсу, якія вывучаюць эканоміку, стыпэндыя на 10 месяцаў.
- Студэнты 3 і 4 курсаў, асобы, не старэйшыя за 32 гады, якія маюць вышэйшую адукацыю па спэцыяльнасьці "германістыка", а таксама асобы зь іншымі спэцыяльнасьцямі, што маюць дачыненьне да Нямеччыны, - чатырохтыднёвыя летнія курсы.
- Юрысты, не старэйшыя за 30 год, якія спэцыялізуюцца ў галіне міжнароднага права, скончылі навучаньне й маюць 2-гадовы досьвед працы па спэцыяльнасьці, - стыпэндыя на 10 месяцаў.
- Маладыя навукоўцы й аспіранты ўсіх спэцыяльнасьцяў, не старэйшыя за 32 гады, якія маюць вышэйшую адукацыю й займаюцца навуковай працай, - стыпэндыя на тэрмін ад 1 да 6 месяцаў.
- Асобы, якія маюць навуковую ступень (без абмежаваньня ўзросту), займаюцца навуковай працай у ВНУ ці навуковай установе па ўсіх навуковых дысцыплінах, - стыпэндыя на тэрмін ад 1 да 6 месяцаў.
- Студэнцкія групы аднае спэцыяльнасьці ў суправаджэньні мінімум аднаго

выкладчыка. Мэта - азнаямленчая паездка. Максымальная колькасьць - 20 чалавек. Стыпэндыя на тэрмін ад 7 да 14 дзён.

- Студэнцкія групы (ад 5 да 20 чалавек) аднае спэцыяльнасьці ў суправаджэньні выкладчыка. Мэта навучальная практыка. Тэрмін стыпэндыі - ад 7 да 28 дзён.

Дадаткова выдзяляюцца стыпэндыі па праграмах 2, 4, 8 для этнічных немцаў (прадстаўнікоў нямецкай нацыянальнай меншасьці). Працэдура ўдзелу ў конкурсе - такая самая, як і для іншых прэтэндэнтаў.

Прэтэндэнты на стыпэндыі па праграмах 1-5 мусяць перад здачай дакумэнтаў прайсьці тэставаньне на веданьне нямецкае мовы. Каб прайсьці тэставаньне, неабходна спачатку пракансультавацца ў лектараў ДААД.

**Час прыёму лектараў ДААД:**
сп-ня Крысьцін Мюлер - штосерады з 14.00 да 16.00, аўд. В-409 МДзЛУ (Менск, вул. Захарава, 21);
сп. Пэтэр Альпэк - штоаўторак з 15.00 да 17.00, пак. 301 БДУ (Менск, пр. Скарыны, 4);
сп. Тобіяс Кнубэн - шточацьвер з 16.00 да 18.00, пак. 220 у ЭГУ (Менск, вул. Броўкі, 3-А);
сп-ня д-р Лідзія Мархофф - штопятніцы з 17.00, пак. 403 Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту (Горадня, вул. Ажэшкі, 22).

**Тэрмін падачы заявак** на ўсе стыпэндыі, апроч праграмаў 5, 8 і 9, сканчаецца **30.11.2001**. Дакумэнты прымаюцца ў Міністэрстве адукацыі РБ альбо лектарамі ДААД.
Блянкі заяваў можна атрымаць у Міністэрстве адукацыі РБ (Менск, вул. Сьвярдлова, 7, пак. 206, т. 226-44-84).



Стася Куніцкая

# Чэхія? Чаму не!

*Адзін мой сябар перакананы, што Чэхія сталася для беларусаў тым самым, чым для савецкіх эмігрантаў быў Ізраіль. Абедзьве краіны вабяць насельнікаў з СНД сваёй добраўладкаванасьцю. Ні ў Чэхіі, ні на "зямлі абетаванай" беларус не адчувае сябе чужаніцаю, бо побач безьліч такіх самых візытэраў.*

У сэрца Эўропы, аднак, ёсьць безьліч пераваг. У Чэхіі няма вайны. Эўрапейскі шык адчуваецца паўсюль, дзе б вы ні знаходзіліся: і ў мясьцінах, чые назовы нельга вымавіць, не зламіўшы язык, і ў прыгажуні Празе. Невялікая Чэхія заўсёды адчыненая для таленавітых замежнікаў. Міграцыйны балянс гэтае краіны паказвае, што энтузіязм замежных адмыслоўцаў, якія едуць туды, значна пераўзыходзіць жаданьне чэхаў пакідаць сваю радзіму. А тыя чэхі, што зьяжджаюць вучыцца, вельмі часта вяртаюцца дамоў.

Зрэшты, пераважная бальшыня чэскае моладзі традыцыйна давярае сваёй сыстэме вышэйшае адукацыі. Трыццаць сем ВНУ, без уліку паліцэйскае й некалькіх вайсковых, запрашаюць іншаземную моладзь даведацца, чым ёсьць сапраўдная вышэйшая школа. Усе чэскія ВНУ падзяляюцца на ўнівэрсытэты, інстытуты й акадэміі. Унівэрсытэтамі маюць права звацца толькі ўстановы, што рыхтуюць кандыдатаў ды доктараў навук. У акадэміях рыхтуюць адмыслоўцаў у літаратуры й мастацтве.

Як і беларускія, чэскія ВНУ падзяляюцца на дзяржаўныя й камэрцыйныя. Беларусам лепей зьвяртацца ў дзяржаўныя ўстановы, якія характарызуюцца надзвычайнай саліднасьцю й фактычнай бясплатнасьцю. Яны маюць трывалую матэрыяльную базу ды дасьведчаных пэдагогаў. Чэскія ўлады імкнуцца ва ўсім трымацца ўзору Эўразьвязу, таму дзяржаўныя ўнівэрсытэты актыўна ўдасканальваюць склад і зьмест выкладаных прадметаў з улікам агульнаэўрапейскіх патрабаваньняў. Гэта значна падвышае якасьць прапанаванай імі адукацыі. У гэтым праяўляецца іхняе істотнае адрозьненьне ад






СНДшных ВНУ, якія толькі пачынаюць мяняць сваю адукацыйную палітыку.

Адным з узораў такіх эўрапейскіх ВНУ ёсьць Праскі Эканамічны ўнівэрсытэт (PEU). Ён зьяўляецца адным з чальцоў прэстыжнага Саюзу эўрапейскіх школаў мэнэджмэнту, у які прымаюць толькі па адной навучальнай установе ад кожнае краіны. На жаль, Беларусь ня мае прадстаўніцтва ў гэтай супольнасьці. Дыплёмы PEU прызнаюцца ва ўсіх краінах сьвету. Сярод 14-х тысячаў будучых эканамістаў міжнароднае клясы й пасьпяховых кіраўнікоў прадпрыемстваў - толькі 2 адсоткі замежнікаў.

Падрыхтоўка адмыслоўцаў у Эканамічным унівэрсытэце цалкам адпавядае сучасным патрэбам грамадзтва, а значыць, дае магчымасьць колішнім навучэнцам пабудаваць бліскучую кар'еру. Гэтаму садзейнічаюць кантакты ўнівэрсытэту з найлепшымі бізнэс-карпарацыямі. Прыкладам, у гэтым годзе была падпісаная дамова з IBM пра навучаньне студэнтаў электроннай камэрцыі.

Пры ўнівэрсытэце існуе Цэнтар прафэсійнае арыентацыі. Праз ягo самыя знакамітыя транснацыянальныя кампаніі праводзяць сярод навучэнцаў старэйшых курсаў адбор сваіх будучых супрацоўнікаў.Таму, праяўляючы посьпехі ў навучаньні, скажам, на чацьвертым курсе, можна лёгка дамовіцца пра месца ў *Siemens, Roland, Procter&Gamble, Nestle* ці ў найбуйнейшым банку Чэхіі *Kommercni Bank*.

Натуральна, Праскі Эканамічны ўнівэрсытэт штогод вытрымлівае штурм тысячаў абітурыентаў. У мінулым годзе сярэднеўнівэрсытэцкі конкурс склаў 3,1 чалавека на месца. Праграма заняткаў, што ўлучае самыя сучасныя й пэрспэктыўныя эканамічныя і гуманітарныя прадметы, разьлічаная на вельмі добра падрыхтаваных навучэнцаў. Зь іншым кантынгентам прафэсура гэтага ўнівэрсытэту працаваць ня згодная. Выкладчыкі - практыкі й тэарэтыкі, якія сумяшчаюць дзейнасьць у PEU зь лекцыямі ў ВНУ Амэрыкі й Эўропы, прыкладам у Сарбоне.

Па меркаваньні цяперашніх студэнтаў PEU, самым складаным ёсьць першы год навучаньня. Пасьля студэнты прызвычайваюцца да напружанага графіку заняткаў. Такі тэмп навучаньня карысны ня толькі для засваеньня максымуму інфармацыі, але й для фармаваньня ў будучых адмыслоўцаў працоўнае дысцыпліны й мэтанакіраванасьці ў бізнэсе.

Унівэрсытэт складаецца з 6-х факультэтаў. Можна вывучаць фінансы й улік, міжнародныя стасункі, эканоміку прадпрыемства, эканоміку народнае гаспадаркі ці ўладкавацца на факультэт мэнэджмэнту ў Йінджыхаў Градцэ. Права выбару прадметаў для вывучэньня дазваляе студэнту спэцыялізавацца на неабходным асабіста яму кірунку. У выніку кожны выпускнік унівэрсытэту ёсьць унікальным адмыслоўцам са сваім наборам ведаў. Такая сыстэма дазваляе студэнту самому плянаваць сваю прафэсійную кар'еру яшчэ ў часе навучаньня. У спалучэньні з рэальнай працай студэнта ў часе вучобы ў абранай ім кампаніі гэта дазваляе зьліквідаваць недахоп неабходных ведаў - зьліквідаваць непасрэдна ва ўнівэрсытэце, а не пасьля яго заканчэньня. Такім чынам, зьберагаецца золата, якім ёсьць час, асабліва калі гаворка йдзе пра кар'еру.

У сучасным бізнэс-сьвеце немагчыма абысьціся бязь веданьня замежных моваў. Гэтую простую ісьціну як нідзе разумеюць у PEU. Таму тамтэйшае студэнцтва мае магчымасьць абіраць паміж вывучэньнем ангельскае, нямецкае, францускае, гішпанскае, італійскае, расейскае, партугальскае, швэдзкае, кітайскае ці арабскае моваў. Зрэшты, можна займацца адразу некалькімі мовамі. Унівэрсытэт прапануе заняткі 5-х узроўняў складанасьці. Студэнт сам абірае ўзровень, зь якога ён хоча распачаць навучаньне. Адылі, можна слухаць па-ангельску, францускую ці нямецку некаторыя курсы, аднак бальшыня прадметаў выкладаецца ўсё ж на чэскай.

Студэнт PEU праводзіць за кампутарам прыкладна столькі ж часу, колькі за падручнікамі. Кампутары неабходныя студэнтам, таму для зручнасьці абмену электроннай інфармацыяй у PEU існуе сетка з чатырох сотняў машынаў. Яна мае выхад у Інтэрнэт з магутнай прапускной здольнасьцю. Сэрфінг ва ўсясьветнай павуціне для студэнтаў бескаштоўны, а пачынаючы з 2-га курсу і неабмежаваны па часе.

У адпаведнасьці з законам аб вышэйшай адукацыі вучоба ў чэскіх ВНУ бескаштоўная (выключэньнем стаў Карлаў Унівэрсытэт, дзейнасьць якога рэгулюецца асобным законам). Аднак студэнты плацяць за дадатковыя паслугі, зьвязаныя з навучаньнем: прыкладам, за аднаўленьне згубленае залікоўкі, за залік праслуханых раней курсаў, за афармленьне мультыфункцыянальнага студэнцкага квітка. Апошнімі карыстаецца абсалютная бальшыня навучэнцаў, і па іх кішэні гэта ня надта б'е. Агульная сума выдаткаў не перавышае сотню даляраў на год.

Тым ня менш увесь час знаходзяцца ахвотныя перагледзець пытаньне пра аплату вышэйшае адукацыі. У гэтым годзе парлямэнцкая большасьць адхіліла папраўкі ў закон аб вышэйшай адукацыі, якія прадугледжвалі параўнальна невысокую, але ўсё ж плату з боку студэнтаў. Калі наступная спроба зьмяніць закон будзе больш удалай, дык тых навучэнцаў, што ўжо будуць мець на той час студэнцкія пасьведчаньні, гэтае правіла не кране. Аднак тыя, хто зьбіраецца вучыцца ў Чэхіі, але марудзіць з ад'ездам, могуць спазьніцца. Да таго ж колькасьць ахвотных уладкавацца ў гэтай краіне год ад году не памяншаецца.

Што да камэрцыйных ВНУ, дык усе яны ўтварыліся нядаўна. Максымальны бакалярскі ўзровень падрыхтоўкі ў іх каштуе немалых грошай. Яны абавязаныя прайсьці дзяржаўную атэстацыю, аднак узровень адукацыі там усё адно пакідае жадаць лепшага.

З гэтага году ў чэскіх ВНУ ўведзенае больш дакладнае разьмежаваньне паміж магістарскімі ды бакалярскімі праграмамі. Для будучых бакаляраў стандартны тэрмін навучаньня - 3 гады. Потым студэнты могуць спыніцца на дасягнутым, а могуць працягнуць студыі, здабываючы званьне магістра яшчэ два гады. Нешта падобнае цяпер адбываецца і ў беларускіх ВНУ, аднак тэрміны навучаньня ў нас даўжэйшыя. Зрэшты, пры жаданьні можна атрымліваць свайго "бакаляра" за 4 гады і ў Чэхіі. Усё залежыць ад нагрузкі, якую абірае студэнт, складаючы індывідуальны плян

НАВУЧАНЬНЕ

заняткаў. Рэч у тым, што, каб атрымаць жаданую ступень, чэскаму студэнту неабходна здаць пэўны набор дысцыплінаў, але дакладнага раскладу іх вывучэньня не йснуе. Галоўнае - выніковая колькасьць балаў, набраная студэнтам, а таксама ягоная здольнасьць здаць іспыты ў магістратуру. Агульны тэрмін навучаньня магістраў ня мусіць перавышаць 6-х гадоў, інакш давядзецца плаціць за дадатковы час навучаньня.

**Для грамадзянаў зь Беларусі**, якія ўжо маюць мясцовы дыплём аб вышэйшай адукацыі, прапаноўваецца магчымасьць атрымаць ступень чэскага, а значыць эўрапейскага магістра літаральна за два гады, бо наш дыплём прымаецца там як бакалярскае пасьведчаньне. Для тых, хто яшчэ ня мае вышэйшае адукацыі, для паступленьня ў чэскую ВНУ, акрамя пашпарту ды пасьведчаньня пра нараджэньне, спатрэбіцца натарыяльна завераны ў Чэхіі атэстат аб сярэдняй адукацыі.

Чэскія дзяржаўныя ўнівэрсытэты й інстытуты будуць радыя вітаць усіх, хто пацьвердзіць свае веды па 2 профільных прадметах у часе іспытаў, якія праходзяць на чэскай мове. Іспыты ладзяцца ў першыя два летнія месяцы году паступленьня, аднак дакумэнты прымаюцца ўжо ў студзені-лютым.



][demon

# Бескаштоўны Internet, альбо Мастацтва ўзлому за тры прыёмы

### Інтрадакшн

Ну вось, дарагі чытач, мы і сустрэліся зноў на старонках гэтага надзвычай глыбакадумнага часопісу. Калі ты чытаў мае папярэднія артыкулы, то ведаеш, што пра розныя разумныя рэчы, на жаль, гаворка тут ня пойдзе. Таму, калі табе цікава чытаць толькі глыбакафілязофскія трактаты Inconnu-табе не сюды, гартай далей. А для тых, хто ўсё ж такі ня здолеў пазбавіцца спакусы і чытае гэтыя радкі, я расьцякуся сваімі чорнымі думкамі па белай паперы.

З чаго ж пачаць? (Крыкі з залі: "Кажы давай, як у Інэт на халяву залезьці!!! Не марудзь!"). Не, шаноўнае спадарства, не магу: калі я ўсё адразу скажу, то каму будуць патрэбныя мае думкі й развагі? Каму-каму??? Ах, Інканю*... Не, ня думаю, хаця ўсякае можа быць...

Дык вось. Пачнем мы з таго, што высвятлім, колькі людзей карыстаецца на Беларусі Інтэрнэтам. Давайце так: вы называеце лічбу, а я кажу, больш ці менш. Таму, хто адгадае, - падарунак ад "Студэнцкай Думкі" (праўда, яна сама пра гэта ня ведае :-)). Ну, карацей кажучы, Інтэрнэтам карыстаецца ў нас каля-100 тысячаў чалавек. Шмат гэта ці не-цяжка сказаць. Па-першае, ня ўсе карыстаюцца ім аднолькава. Пагадзіцеся, што колькасьць кампутараў, а тым больш далучаных да сусьветнай павуціны, не такая ўжо і вялікая. Праўда, з кожным годам гэты паказьнік расьце. Да таго ж ня кожны можа сабе дазволіць гэткую, па сёньняшніх беларускіх мерках, раскошу, як цэласодневы Інтэрнэт.

Аднак праведзенае газэтай "Чалавек і Інтэрнэт" апытаньне паказала, што людзі ў нашай краіне не такія ўжо і бедныя. Прынамсі, некаторыя індывіды - гэтае разумнае слоўца я пачуў на занятках па філязофіі ў спадара Крукоўскага (дарэчы, прывітаньне яму!) - выдаткоўваюць штомесяц болей за 180 вечназялёных прэзыдэнтаў на Інтэрнэт, а колькасьць тых, хто плаціць менш за 50 і ня плаціць увогуле, амаль роўная. Над чым гэта прымушае задумацца? Так-так, спадар зь першага шыхту, я ведаю, што вы ўсё жыцьцё чужымі паролямі карыстаецеся, але ж навошта гэта казаць астатнім? ШТО? Яны ўсе ведаюць? Цікава, а як часта вы ў ворганах бываеце? Ах, гэта яны да вас прыходзяць на гарбатку... Ну, усё з вамі зразумела...



Для тых, хто не ў такіх добрых зносінах з адмысловымі службамі, рэкамэндую не займацца тым, пра што далей пойдзе гаворка. Я здымаю зь сябе ўсю адказнасьць за вашыя дзеяньні.

Не спужайся, дарагі дружа? Ну што ж, пяройдзем непасрэдна да дзеяньняў. Для таго каб зрабіць усё ніжэйапісанае, нам спатрэбяцца кампутар, мадэм, тэлефонная лінія і доступ да Інтэрнэту на дзьве-тры гадзінкі. Для прыёму № 3 - каля 250 вечназялёных.

### Няма ў сьвеце немагчымага, акрамя таго, што немагчыма (народная мудрасьць)

*Прыём № 1*, самы просты й небясьпечны. Табе спатрэбіцца паштовая скрыня (пажадана дзе-небудзь у афрыканскім рэгіёне, але Паўночны полюс таксама падыдзе). Апроч гэтага - база электронных адрэсаў (пажадана асобаў, што пражываюць у Менску). Як дастаць? Ды шмат дзе можна ўзяць... Напрыклад, чалавек на сэрвэры знаёмстваў пакінуў паведамленьне, вядома ж, з адрэсай электроннай пошты. Гэта найбольш удалы варыянт. Ну, можна таксама ў чатах знаёміцца, купляць базы й г. д. Але самы просты варыянт - усё ж праз сэрвэр знаёмстваў. Чаму?

З тае прычыны, што людзі, якія пакінуць паведамленьне пра знаёмства, ня ўбачаць нічога падазронага ў тым, што ім прыйдзе ліст ад незнаёмага чалавека, ды яшчэ з фотаздымкам. У лісьце можна напісаць што заўгодна: "Прывітаньне, блакітнавокая прыгажуня з трэцяга пад'езду", напрыклад. Ну і што, што ў яе не блакітныя вочы? Галоўнае - інтрыга, каб чалавек доўга ня думаў перад тым, як адчыніць файл, які прыйшоў разам зь лістом. А файл гэты будзе з сакрэтам. Акрамя фотаздымка Ірыны Віданавай (што? Не кажы мне, што ты не Ірына Віданава. Якая розьніца? Можна хоць Філіпа Кіркорава паслаць!), у ім будзе невялічкі вірус. Пажадана яго ў здымак і запхнуць, каб ня так "сьвяціўся". А можна ўвогуле стварыць два фотаздымкі: адзін сапраўдны, а другі - вірус. Гэта справа густу. Галоўнае - каб у лісьце быў вірус.



Скуль узяць? Ну, дзеля гэтага нам і патрэбны Інтэрнэт. Вірусаў цяпер шмат ёсьць. Можа так стацца, што падыдзе звычайны *Стэлз* (праўда, зараз гэта малаверагодна, бо я ня бачыў такога антывірусу, які б не знаходзіў *Стэлз*). Але ж можа стацца, што ў ахвяры антывірусу няма. І вось тады яна патрапіла...



Робім проста: з дапамогай праграмы *Stealth Config* ствараем вірус: пішам назоў, тып файла і адрэсу электроннай пошты, на якую прыйдзе ліст з паролем да Інтэрнэту. Карацей, схема зразумелая: ствараем файл зь вірусам, называем яго *Ja_u_dushy.jpg* і атрымліваем *Ja_u_dushy.jpg.exe*. *Exe* -гэта пашырэньне файла, што паказвае на неабходнасьць яго запуску як праграмы. Карыстальнік адчыняе файл, паказваецца аголеная... ну, скажам, Брытні Сьпірс, ён у экстазе (як жа, сама Брытні!), а тым часам вірус скрадае імя карыстальніка й пароль ды, пакуль ахвяра глядзіць на прывабную дзяўчыну, перасылае ўсё гэтае шчасьце на патрэбны мэйл. Усё! Засталося толькі даведацца, які гэта правайдэр (найлепей - з дапамогай ай-пі адрэсы, дзеля чаго трэба ўсё гэта прапісаць у тэксьце віруса). Для тых, хто ня ў танку: ай-пі адрэса (IP) - гэта адрэса, якую мае кожны вузел (кампутар) Інтэрнэту. Кожны правайдэр мае свой дыяпазон ай-пі адрэсаў, якія ён можа надаваць кампутарам. Такім чынам, ведаючы ай-пі адрэсу ахвяры, бязь цяжкасьці можна вылічыць і правайдэра. Вядома, гэтаксама можна, пры жаданьні, вылічыць, зь якога кампутара адпраўляўся ліст. Як? Калі вы атрымліваеце ліст, ён, акрамя асноўнага тэксту, мае загаловак. На той, што пішацца ў радку "Тэма", а той, дзе зьмяшчаецца ўся інфармацыя пра шлях ліста ад адпраўніка да атрымальніка. Напрыклад, у праграме *The Bat!* для прагляду загалоўкаў трэба ўключыць опцыю "Паказваць загалоўкі", для *Outlook* - "Загалоўкі Інтэрнэту".

Дык вось, глянуўшы на загаловак, можна вылічыць, зь якога кампутара быў адасланы ліст. Каб пазьбегнуць непрыемнасьцяў, трэба выкарыстоўваць службы ананімнага ліставаньня. У сувязі са зьменлівасьцю сучаснага Інэту ня буду даваць канкрэтныя адрэсы, аднак, набраўшы ў *Гугле* (www.google.com) што-небудзь кшталту "anonym+mail+free", можна знайсьці жаданае. Таксама варыянт - адасланць ліст зь інтэрнэт-кавярні, у якой ніхто не зьвяртае ўвагі на тое, чым ты займаесься.

Зрэшты, можна паспрабаваць скарыстацца паролем на доступ інтэрнэт-кавярні. Безумоўна, у кавярні, дзе болей за 3 кампутары, інтэрнэтаўскі пароль прапісаны ня будзе, бо там усё йдзе праз лякальную сетку. Аднак сустракаюцца некаторыя кавярні, дзе толькі адзін (!) кампутар, які падключаецца праз дыял-ап (дазвонам да правайдэра). Верце - ня верце, але я сам меў нейк справу з такім кампутарам. Дык вось, паколькі там працуюць звычайныя жанчыны, якім проста паказалі, як запусьціць праграму дазвону, разьлічваючы на непадрыхтаванасьць кліентаў у пляне бясьпекі, пароль знаходзіцца ў памяці кампутара. Што нам трэба зрабіць? Прынесьці дыскетку з праграмай, якая паказвае схаваны тэкст - напрыклад *Openpass*, - і зь ейнай дапамогай паглядзець пароль. Імя ж карыстальніка й тэлефон бачныя няўзброеным вокам.

Аднак вернемся да вірусаў. Калі на твой мэйл прыйшоў ліст з паролем, імем карыстальніка і ягонай ай-пі адрэсай (альбо адразу з тэлефонам для дазвону), твая мэта - вызначыць правайдэра паводле ай-пі (напрыклад, з дапамогай www.ripe.net/whois). Далей глядзім, што гэта за правайдэр. Калі менскі, то, добра папярэдне падумаўшы, заходзім на ягоны сайт, каб даведацца тэлефоны дазвону (калі ж нумары ўжо ёсьць - можна нікуды і не хадзіць) і тэлефануем... Але ПАМЯТАЙ: правайдэр можа мець вызначальнік нумару, і ў такім разе цябе хутка вылічаць. Таму будзь асьцярожны. Акрамя таго, большасьць правайдэраў дае кліентам магчымасьць глядзець статыстыку, і, няма сумневу, кліент будзе зьдзіўлены, пабачыўшы, што нехта карыстаўся ягоным імем і, адпаведна, грашыма. Далей ён патэлефануе правайдэру, які і зоймецца вылічэньнем нахабніка... Калі ж пароль па нейкіх прычынах не працуе, то згадайма, што доступ не абавязкова бывае цэласодневы. Таму варта паўтарыць спробу ў іншы час. Акрамя таго, карыстальнік мог зьмяніць пароль...

Рэзюмуючы першую частку, адзначым:

1. Пароль да Інтэрнэту лёгка дастаць з дапамогай віруса праз электронную пошту.
2. Месцазнаходжаньне адпраўніка ліста можна вылічыць.
3. Сэрвэры знаёмстваў, розныя чаты, форумы й г. д. - патэнцыйныя дапаможнікі хакера ў справе здабываньня асабістай інфармацыі (больш падрабязна мы спынімся на гэтым у наступных артыкулах).
4. Статыстыку знаходжаньня ў Інэце можна праглядзець.
5. Правайдэр можа мець вызначальнік нумару.

Крокі да выратаваньня:

1. Пажадана не "запамінаць" пароль з дапамогай праграмаў для дазвону. Лепей лішні раз яго ўвесьці.
2. Варта паставіць антывірус і абнаўляць яго не радзей як адзін раз на тыдзень.
3. Пры адпраўцы лістоў і вэб-сэрфінгу, асабліва пры наведваньні чатаў, пажадана карыстацца проксі-сэрвэрамі й службамі ананімнага доступу.
4. Варта ўважліва ставіцца да лістоў, атрыманых ад незнаёмых людзей, і не адчыняць файлы, пакуль яны не праверaны на вірусы.
5. Трэба пэрыядычна абнаўляць свой броўзэр.
6. Зьмяняць пароль пажадана не радзей як два разы на месяц.



*(працяг будзе)*

*Заўвага Inconnu: "Я, панімаіця, сталы аўтар "CD" і не пацярплю, штоб маё непарочнае імя мусолілі ўсякія "дэманы"! Абяцаю разабрацца!"



][demon



# Чароўнае ператварэньне, або Як зь Віcьлера атрымаўся XP

**(Працяг)**

*У мінулым нумары я ўжо распавядаў, як у Більлі Гейтса сьпіянэрылі фінальную вэрсію Windows XP і якім чынам яна трапіла да мяне. Вось жа, усталяваў я яе на свой комп, адчуў сябе прасунутым піплом і пачаў пільна ўглядацца ў манітор…*

Хацелася б падрабязьней спыніцца на зьнешнім выглядзе Windows XP. У гэтай вэрсіі ўсе вострыя куты зрабіліся паўкруглымі. Замест простых аднакаляровых вокнаў вельмі шырака выкарыстоўваюцца розныя колеры, градыенты (пераходы аднаго колеру ў другі), празрыстасьць. Кожная кнопка рэагуе на любое дзеяньне мышкі: яна падсьвечваецца, зьмяняе колер і г. д. Значкі на панэлях вабяць сваёй рознакаляровасьцю, прыгажосьцю, яны сталі большыя па памерах і зьмянілі піктаграмы (малюнкі).

Іконкі на працоўным стале таксама зрабіліся больш прывабнымі і празрыстымі, подпісы на іх цяпер ня маюць абавязковае патрэбы ў фоне - яго можа й ня быць, і ў такім выпадку ствараецца аднароднасьць іконак з малюнкамі працоўнага стала (якіх, дарэчы, стала больш, да тога ж зьявіліся такія, што належаць толькі дадзенай Windows). Настроек стала значна болей - цяпер можна зьмяняць амаль усё, прычым ня толькі са стандартнага набору, але й зь Інтэрнэту, а гэтаксама з дапамогай набору праграмаў і настроек Plus!, які ўжо сёньня можна набыць на Ждановічах.

Далей пра Windows XP: у гэтую вэрсію ўключаныя Internet Explorer 6.0, а таксама праграмы для працы зь відэа й гукам, такія як Mediaplayer 8.0 і Windows Movie Maker, што зьяўляецца палепшанай вэрсіяй таго, які быў яшчэ ў Windows Millennium. Эксплорэр уразіў вонкавым выглядам, а з



функцыянальных магчымасьцяў трэба адзначыць зьяўленьне сеткавага экрану, які робіць знаходжаньне ў Інэце больш бясьпечным. Хаця гэта яшчэ спрэчна, бо можа стацца, што ў ім болей дзірак, чымся ў друшляку :-).

Паляпшылася й сеткавая праца. Прынамсі, мой кампутар працуе вельмі добра і ў лякальнай сетцы, і ў Інтэрнэце. Нават далучэньне да Інтэрнэту мяне ўразіла - было такое адчуваньне, што сыстэма апошнія сокі з мадэма выціскае, настолькі пранізьліва й жаласьліва той пішчэў…

Ну што, здаецца, я крыху распавёў вам пра гэтае шчасьце ад Більлі Гейтса. Застаецца толькі нагадаць, што сыстэма вымагае актывацыі і безь яе будзе працаваць толькі 15 дзён. Аднак тая вэрсія Professional, якая ёсьць у мяне, актывацыі не патрабуе з прычыны свайго "законнага" патрапленьня па схеме Microsoft -> фірма -> hackers -> я. А самае галоўнае, што на нашых рынках і ў інтэрнэт-крамах прадаецца менавіта гэтая вэрсія! З усяго гэтага вынікае, што Microsoft і дзядзька Більлі зноўку аблажаліся ;).




**P.S.** Калі будуць пытаньні, дасылайце на мэйл: *xdemon@tut.by*.

**У наступных нумарах:** выкраданьне пароляў на доступ да Інтэрнэту ў правайдэра; картачны Інтэрнэт; Інтэрнэт праз спадарожнік - дасягні хуткасьці 2 мэгабіты ў сэкунду; ананімны Інтэрнэт; шыфраваньне лістоў першыя крокі. **Чытай "CD" - будзь у бясьпецы!**

# Лічбы. Факты. Адсоткі

*Ударная доза інфармацыі, якая сьведчыць пра тое, што сьвет не такі просты, як у мыльных опэрах*

## Грошы й тлушч

Колькасьць жыхароў Зямлі, у якіх даход не перавышае 1 даляр на дзень: **1.199.000.000**

Колькасьць жыхароў Зямлі, якія недаядаюць: **1.100.000.000**

Колькасьць жыхароў Зямлі, якія пакутуюць ад лішняе вагі: **1.100.000.000**

Адсотак жыхароў ЗША, якія пакутуюць ад лішняй вагі: **61**

Адсотак жыхароў Расеі, якія пакутуюць ад лішняе вагі: **54**

Адсотак жыхароў Кітаю, якія пакутуюць ад лішняй вагі: **15**

Адсотак жыхароў Бангладэшу, якія пакутуюць ад лішняй вагі: **7**

Колькасьць амэрыканскіх жаўнераў, звольненых са службы па прычыне атлусьценьня (з 1990 г.): **41.799**

## СНІД

Колькасьць памерлых ад СНІДу, пачынаючы з 1980 году: **21.800.000**

Колькасьць заражаных ВІЧам: **36.100.000**

Колькасьць чалавек, якія заразіліся ВІЧам у 2000 годзе: **5.300.000**

Колькасьць чалавек, якія заразіліся ВІЧам у краінах былога камуністычнага рэжыму ў 2001 годзе: **250.000**

## Сэкс

Лічба палавых актаў, якія ажыцьцяўляе ў сярэднім мужчына паміж 20-60 гадамі жыцьця: **2800**

Колькасьць гадоў, патрэбных для дасягненьня гэтага выніку, пры ажыцьцяўленьні аднаго акту штодзень: **7,5**

Адсотак амэрыканцаў, якія лічаць, што карыстаньне кампутарам і электронікай нэгатыўна ўплывае на іх сэксуальнае жыцьцё: **8**









✱✱✱

## Valik Grishko

*Soley*

[c], [p] Bulba rec. 2001

**Калі б ангельскі паэт-рамантык Байран жыў у Менску ў 2001 годзе і быў музыкам, то знаёмцы клікалі б яго Валікам Грышком.**

У Валіка выдатна атрымліваецца ствараць музычную і візуальную харызму любога праекту. Часамі аж занадта нудны барабанны дроб *Drum XTS*, які калісь здолеў дакладна перадаць пульс стомленага бэтоннага Менску і яго "прасунутых" абарыгенаў, асацыюецца не зь ідэолягам праекту Чмыром, а менавіта з Валікам. Першы, з тварам дваровага "быка", яўна прайграе Грышку, гэткаму выкшталцонаму носьбіту цёмна-шэрай уся-менскай тугі. Дарэчы, зусім ня выключана, што немагчымасьць цалкам зрэалізаваць місію апошняга постіндустрыйнага рамантыка праз барабан і палачкі падштурхнула Валіка да ўласнага праекту. Першая заяўка на яго удзел у *tribute* "Песьнярам" не была адэкватна ўспрынятая публікай: на прэзэнтацыі рэлізу, пры скапленьні 5 тысячаў людзей, у якасьці прызу глядацкіх сымпатыяў Грышко атрымаў бамбардоўку перасьпелымі таматамі. Але праз чатыры гады Валік сам кінуў у натоўп абываталяў гэтым разам сапраўдную бомбу - альбом *Soley*.

Крыху аднастайны, не зусім удала зьведзены і заміксаваны, альбом тым ня менш выбіваецца з шэрагу рэлізаў адзінствам (як там у клясыкаў сацрэалізму?) формы і зьместу. Вельмі мінімалістычны, *Soley* прыцягвае сваёй атмасфэрнасьцю: гэта як боязь вялікіх прастораў, дзе можа згубіцца любы гук - басовай гітары, сола-гітары, бубноў, кампутарных фенек і да т.п. Музычныя ўплывы настолькі празрыстыя, што дзеля забавы пачынаеш шукаць там, дзе быць іх дакладна ня можа: *hard core, trip hop, house, metal*. І знаходзіш! Але гэта не параноя, а хутчэй хваравітая эрудыцыя і спробы музыкі пагуляць са слухачом у адмысловыя эстэцкія гульні. Пытаньне, ці гатовы шараговы беларускі слухач, дыяпазон ведаў якога вар'юецца ў межах рок- ці поп-мэйнстрыму, уключыцца ў такія забаўкі.

Дадайце да ўсяго імпрэсавы а-ля юніксэкс вакал Валіка, які ламае ўсялякія ўяўленьні пра моўныя інтанацыі, нібы смакуючы пэўныя словы ў песьні. Самыя цікавыя экспэрымэнты з фанэмамі, апрача жыццесьцьвярджальнага "р-р-р", у беларускамоўных кампазыцыях, дзе нават слова "каханьне" жыве зусім іншым, яўна не тутэйшым артыкуляцыйным жыцьцём. Сам аўтар тлумачыць гэта пэўнымі праблемамі артыкуляцыйнага апарату.

Інтрыгу вакол альбому нагнятае сапраўдная вайна, што разгарнулася між лэйбламі "Бульба рэкардз" і БМАgroup за права купіць у Валіка правы на *Soley*. У выніку нібыта перамагла "Бульба". Паралельна ў менскіх колах праходзіць інфармацыя, што некаторыя маскоўскія станцыі адрываюць з рукамі Валікавы прома-дыскі для пастаяннай ратацыі. Ясна, беларускія мэнэджэры зноў няўдала *PR*-аць. Але ў выніку мы з вамі чарговы раз рызыкуем не даведацца, як жа гучыць якасная беларуская музыка (сэнсавы націск у словазлучэньні варыятыўны).




✱✱✲

## KIT

**Purple trees**

[p] Bulba rec. 2001

**Узор пасіўна-мэлянхалічнай спробы зрабіць разнастайным абрыдлы брыт-поп.**

Калі меркаваць па зборы сынглаў каманды *Aeroplan "Five biospheres"* (2000), іх цяперашняя музыка, у варыянце *KIT* - гэта вынік штучна нагнятальнага крызу дэпрэсіі. Падобна, што са зьменай назвы ў гурце адбылася пераацэнка каштоўнасьцяў, гэткі аксіялягічны шок: ад генэтычнага беларускага геданізму да клясычнага стаіцызму. Калі ранейшы склад імкнуўся да больш-менш складаных аранжыровак, да зьлёгку рэфлексіўных, у духу "Мегаполиса", тэкстаў, то *KIT* вызначае за прыярытэт прастату і максімальную зануднасьць. Ва ўсім: у музыцы (склад скарачіўся за кошт флейты, скрыпкі і альта), у лірыцы (варыянт *easy English*), у дызайне дыску, нарэшце. Дарэчы, апошняе як найбольш яскравае выяўленьне канцэптуалізацыі: для *"Five biospheres"* важная мэтафара руху, нейкай завуаляванае агрэсіі, у *"Purple trees"* усё прасякнута статычнасьцю зялёнага колеру і відарысаў Брусэлю. Колер амаль не раздражняе, але ў захапленьне таксама не прыводзіць.










✱✱✲

## Stereo MC'S

**Deep down & dirty**

[p] Island. 2001

**Не мінула й дзесяць год, а Роб Бёрч са сваёй ангельскай талакой нарэшце выдаў чарговы альбом!**

Хто здольны акумуляваць намаганьні сваёй памяці, узгадае, што некалі *Connected* быў гітом не адной польскай пірацкай зборкі, якімі завальвалі музычныя шапікі Камароўкі. *SMC'S* прыцягвалі ўвагу постсавецкай моладзі невядомымі дасюль рытмамі электроннай эстрады і экзотыкай каліфарнійскае пустэчы. З таго часу нібы нічога не зьмянілася: усё тыя ж фанк-сэкцыя, рэп падобнага да героя "Марсіянскіх кронікаў" Бёрча ды некалькі сапраўды вартых увагі сэмплаў. Даволі жвавенькая экспазыцыя ў выглядзе загалоўнай кампазыцыі для сталых клюбэраў, што настальгуюць па залатым дзяцінстве, роўны да болю ў сківічных костках працяг і нечакана драматычнае заканчэньне (далібог, *The right effect*). Такое ўражаньне, што, нібы крыху скарэктаваўшы музычныя наступствы канца XX ст., альбом паспрабавалі адаптаваць да пачатку XXI ст. Амаль пасьпяхова.

У нас пасьля такога альбому далі б званьне Народнага артыста - як прызнаньне заслугаў перад прагрэсіўнымі суайчыньнікамі. І пастаянна запрашалі б на тэматычныя вечарыны электроннай музыкі ў рамах фэстывалю "Залаты шлягер".




✱✲✲

## Air

**10 000 Hz Legend**

[p] Source 2001

**Гадзінны рэквіем двух французаў у памяць пра саміх сябе і сваю музыку.**

Раней тое, што граў *Air*, называлася *easy listening*. Музыка, якая навявала ўспаміны пра саўндтрэкі да сьлязьлівых мэлядрамаў кшталту "Бум", у якіх хлопчыкі і дзяўчынкі перажывалі першы досьвед каханьня, першыя сьлёзы ад нязьдзейсьненых мрояў і эратычных фантазіяў пад мінорныя гукі аналягавага сінтэзатара.

Зараз *Air* зрабілі тое, што можна назваць *hardcore listening*. Восем месяцаў працы ў Лёс-Анджэлесе і Парыжы, роты сэсійных музыкаў, калябарацыі з Бэкам - і маем чыста амэрыканскі прадукт, гэткую лёгкую кантры-"парнушку". Ад снобскага шансону, што сьпявалі парыжане пра сэксе зь любай дзяўчынай, засталіся ледзь заўважныя прыдыханьні, здобраныя няўцямнымі інтэрмэдыямі ў стылі "The Wall" (чытай, завал) і кандовым губным гармонікам, які па экспрэсіях і блізка не ляжаў побач з "Роландам". Безумоўна, Бэк вельмі стараецца, дый французы спрабуюць дацягнуцца да лепшых часоў, але справа зробленая - вэстэрнізацыя двух апалягетаў эўрапейскай лёгкай музыкі прайшла пасьпяхова. Ахвяра адна - згвалчаныя слухачы, што гэтак жа лёгка развіталіся са сваімі прыемнымі ўспамінамі пра залатыя васьмідзясятыя, як гераіня "Буму" з цнатлівасьцю.




✱✱✱

## Muse

**Origin of symmetry**

[p] emi 2001

**Калі вы чытаеце гэтыя радкі, *Muse*, пэўна, ужо атрымаў *Q Award* за лепшы альбом году...**

... альбо за лепшыя канцэртаваньні году ці за лепшы саўндпрадусэрынг. А калі і не атрымаў, то выключна з-за непразорлівасьці экспэртаў. Адкінуўшы ўбок пэрформэраў гуку на чале з Томам Ёркам і Дэйвам Элбарнам - дэ факта, ідэйных натхняльнікаў *Muse*, - Мэт'ю Бэламі зь сябрамі стварыў адмысловую суспэнзію. У ангельскі эль, які задумення паблісквае ў шклянцы і наводзіць на думкі пра вечнае, яны дадалі нешта шыпучае і з бурбалкамі (хіба што антыдэпрэсант), і ўвесь гэты неўтаймаваны кактэйль спрэзэнтавалі публіцы. Па вялікім рахунку, нічога новага: *"OK Computer"*, перасьпяваны ў стылі клясычнай блёраўскай *"Song 2"*. Але пры гэтым колькі экспрэсіі, напору, сымфанічнай пампезнасьці! Пры ўсіх адзначаных якасьцях *Muse* ніводнай эмоцыі не прыцягвае за вушы, і тваіму зрафінаванаму музычнаму густу ня трэба чырванець і апускаць вочы долу, перапрашаючы за празмерны патас. Як той казаў, элегантна. І без фальсыфікацыяў.

**Падрыхтаваў Сяргей Сахараў**

**“ДААС” - аўтарызаваны дылер кампаніі LEXMARK**